ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ ЦАНА — PRICE $ 1.00

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
POST ADDRESS: BIELARUS, P. O. BOX 109, JAMAICA, N. Y. 11431. Tel.: (212) 380-2036

Год XXVIII, № 263 New York, March — Сакавік 1979 Vol. XXVII, № 263

## БЕЛАРУСЫ У КОСМАСЕ Й НА ЗЯМЛІ

„У космасе два прадстаўнікі беларускага народу — Пётр Клімук і Уладзімір Кавалёнак". Гэткі сказ выпісаў-выгравіраваў у сваім артыкуле пра дасягненьні беларускага народу, дзякуючы савецкай уладзе, Санін у газэце „Літаратура й Мастацтва" з 24-га лістапада 1978 году. Сказ гэты мы ўзялі з намерам, каб зірнуць на адзін важны аспэкт перабываньня Беларуса Пётры Клімука ў космасе й на зямлі. На зямлі Пётры Клімука, на ягонай бацькаўшчыне, у Берасьці або Брэсьце, у гонар яго пастаўлены ягоны бюст на гранітным п'едэстале. І ў граніт гэты ўпісанае прозьвішча ягонае — прозьвішча, кажучы словамі газэты „Зьвязда", „звычайнага беларускага хлапца". Ды выпісанае прозьвішча гэтае не ў ягонай роднай беларускай мове (афіцыйнай мове рэспублікі), а парасейску, гэта значыцца расейскімі літарамі, бо гучыць яно аднолькава — „Клімук".

Але справа літараў — таксама справа прынцыповая. І паўстае пытаньне: ад якога вялікага грэху ўцякала камісія, што пастанаўляла пра мову напісу, выбраўшы напіс расейскі, а не беларускі?

Калі ў Хатыні прозьвішчы мёртвых выпісаныя пабеларуску, чаму ў Берасьці прозьвішча жывога ня мае права на гэтую мову? І прозьвішча ня звычайнага жывога ( у сэньсе стаўленьня да свае роднае мовы), а патрыёта свае мовы, ейнага абаронца (перад гэткім во выцісканьнем яе з афіцыйнага ўжытку, што дапушчанае пад ягоным-жа бюстам).

Гэта-ж ніхто іншы, як Пётра Клімук, браў з сабой у касьмічны палёт томік вершаў Якуба Коласа, каб гэтым узьняць мову свайго народу высака пад зоры. Ягоная кніга „Зоры побач", у вадваротнасьць ад пераважнае бальшыні падобнага роду літаратуры, выдаванае на Беларусі парасейску, вышла ў беларускай мове, у мове Якуба Коласа. Дык чаму-ж Клімуковага прозьвішча на п'едэстале, у граніце пад ягоным бюстам у беларускім горадзе Брэсьце, ня выпісалі пабеларуску?

Пытаньне гэтае — ня толькі справа літары "і", што розьніць беларускае напісаньне прозьвішча „Клімук" ад расейскага. Гэта прынцыповае пытаньне нацыянальнае палітыкі партыі на Беларусі.

Пытаньне гэтае вымагае ўвагі, разгляду, высновы й дзеяньня з жыў — у Менску ці Маскве, у Брэсьце ці дзе-небудзь Буэнос-Айрэсе боку каждага Беларуса, дзе-б ён ні або аўстралійскім Брысбэйне — і якіх-бы догмаў ні трымаўся — матэрыялістычных ці ідэалістычных. Бо ход тут не пра ідэі ці палітычныя перакананьні, а пра самую існасьць народу — ягоную мову, ягоную душу.

Пытаньне гэтае вымагае ўвагі і з гледзішча на самога гэроя-касманаўта, які ў сваёй кнізе „Зоры побач" спавядаецца перад Беларусяй, як гэта відаць з рэцэнзіі на гэтую кнігу ў леташнім кастрычніцкім нумары часапісу „Маладосьць": „Родная хата, вёска, родны кут, людзі, сярод якіх гадаваўся і рос, пакінулі ў маёй душы незабыўны сьлед, я нідзе й ніколі не забываўся на іх і заўсёды з цікай і сьветлай радасьцю прыяжджаю ў родную Беларусь, у дарагую майму сэрцу Камароўку ..".

Пётра Клімук нездарма браў з сабой у космас томік вершаў Якуба Коласа, якому належаць радкі: „Мой родны кут, як ты мне мілы, забыць цябе ня маю сілы . . .".

Нажаль, аўтары помніка-бюсту ў гонар Пётры Клімука ў Берасьці ня ўважалі за патрэбнае ўлічыць пачуцьці й перакананьні ані самога касманаўта, ані ягоных суродзічаў. Бо гэта пярэчыла-б русыфікацыйнай палітыцы кампартыі на Беларусі.

**А. Загорны**

## ДЗЯРЖАЎНЫЯ ПРЭМІІ БССР 1978 ГОДУ Ў ГАЛІНЕ ЛІТАРАТУРЫ Й МАСТАЦТВА

Газэта „Літаратура і Мастацтва" за 29 сьнежня летась зьмясьціла Пастанову ЦК КПБ і Савету Міністраў БССР пра прысуджэньне Дзяржаўных прэміяў БССР 1978 году ў галіне літаратуры й мастацтва. І само вылучэньне твораў для ўзнагароды, і іхнае ўзнагароджаньне або неўзнагароджаньне, як ведама, становіць сабой асабліва чулы баромэтр партыйнае палітыкі ў дачыненьні да літаратуры й мастацтва Беларусі. Бывалі выпадкі, калі ўзнагароды прысуджаліся навет творам, якія да гэтае ўзнагароды наагул вылучанымі ня былі й тым самым парушалі палажэньне пра ўзнагароды. Вымоўным прыкладам гэткае практыкі была несамавітая зьява, калі ў 1968 годзе была ўзнагароджаная нявылучаная да ўзнагароды эпапэя Міхася Лынькова „Векапомныя дні" тады, калі з вылучаных да ўзнагароды твораў мастацкае прозы, у тым ліку й выдатныя творы Алеся Асіпенкі „Вогненны азімут" або аповесьць Уладзімера Дубоўкі „Жоўтая акацыя" былі пакінутыя без узнагароды.

Даволі дзіўна, што ў сёлетнім выпадку партыя не паўтарыла прыкладу з эпапэяй Міхася Лынькова „Векапомныя дні", хоць гэткае паўтарэньне выдавалася-б цалкам мэтазгодным для бягучае партыйнае палітыкі. Гэтак у галіне мастацкае прозы былі вылучаныя вылучна творы на тэму мінулае вайны, як франтавой, гэтак і партызанскай. І ўсе яны артымалі ўзнагароды. Алеж, як ведама, партыя ў самым апошнім часе робіць асаблівы націск на творы літаратуры й мастацтва на тэму сучаснасьці, пра работніцкае й гарадзкое асяродзьдзе, пра работніцкую клясу й пытаньні нае вытворчасьці, як і наагул пра дасягненьні навукова-тэхнічнае рэвалюцыі. А твораў на гэтыя тэмы зьявілася на працягу колькіх мінулых год ня мала.

Нічога не магло-б быць прасьцейшага, каб і сёлета паўтарыць практыку 1968 году з эпапэяй Міхася Лынькова „Векапомныя дні". Тымчасам партыя гэтага не зрабіла. Вынырае ў сувязі з гэтым пытаньне: чаму? На нашую думку, якраз таму, што сярод гэных твораў пра работніцкую клясу, вытворчыя дасягненьні й навукова-тэхнічную рэвалюцыю ня было ніводнага на адпаведным мастацкім узроўні. А іхнае эвэнтуальнае ўзнагароджаньне адно стварыла-б ураженьне, што партыя цалкам задаволеная з гэнага нявысокага ўзроўню.

Вельмі характэрна й тое, што з вылучаных да ўзнагароды твораў літаратуры й мастацтва для дзяцей у Дзяржаўным тэатры лялек БССР Анатоля Вярцінскага „Дзякуй, вялікае дзякуй" і „Скажы сваё слова, салдат", а таксама п'еса Пятруся Макаля „На ўсіх адна бяда", ніводзін твор ня быў узнагароджаны. Дарэчы зазначыць, што ўсе згаданыя п'есы Анатоля Вярцінскага й Пятруся Макаля мелі высокую ацэну ў літаратурнай крытыцы. Застаецца думаць, што згаданыя п'есы, як і іхныя ацэны крытыкай ані ня сугучныя партыйным патрабаваньням да літаратуры для дзяцей.

Асабліва-ж характэрная зьява з узнагародамі твораў паэзіі. Былі вылучаныя для ўзнагароды тры наступныя паэтычныя кнігі: Аркадзя Куляшова „Хуткасьць" (вылучаная пасьмертна ўжо), Ніла Гілевіча „Актавы" й Максіма Лужаніна „Лявоніха". Аднак ніводнай зь іх Дзяржаўная прэмія БССР прысуджанай ня была, хоць з увагі на свае высокія мастацкія каштоўнасьці й асабліва ўздельную вагу Ніла Гілевіча ў беларускай сучаснай паэзіі найбольш вартай узнагароды была кніга „Актавы". Не памагло й тое, што Ніл Гілевіч у надрукаваным ім у газэце „Літаратура й Мастацтва" за 9 чырвеня летась вершы „Слова" ўпяршыню ў сваёй паэтычнай практыцы дазволіў сабе на ўзапраўды нізкапаклонніцкі палітычны хваласьпеў. Верш „Слова" пачынае паэта гэткімі, здавалася-б, узапраўды натхненнымі радкамі:

Слова! Цуд найвялікшы між цудаў-дзівосаў,
Што зьдзіўляў у вяках і зьдзіўляе нанова.
Трапяткое, жывое, як сонца у росах,
Несьмяротнае, роднае матчына слова!

Затое ў шчырую ўсхваляванасьць у заканчэньні гэтага вершу паверыць ужо нельга. А канчаецца гэты верш радкамі гэткімі:

Слова гневу і помсты, пяшчоты і жало —
Любай Маці-Радзімы вячыстае слова!
Слова веры, якой мы ня здрадзім ніколі.
Слова праўды, што ў сэрцы нам сьвеціць вясново.
Слова працы і радасьці, шчасьця і волі —
Рэвалюцыі, Леніна, Партыі слова!

Службовая каньюнктурнасьць і дэклямацыйны патас у прыведзеных канцавых радкох вершу „Слова" вельмі-ж белымі ніткамі шытыя, што не маглі зрэкампэнсаваць гарачага беларускага патрыятызму ўва ўсёй творчасьці гэтага высака таленавітага паэты, якім у беларускай літаратуры Ніл Гілевіч. Ня менш важна й іншае. Ніл Гілевіч адзін зь вядучых сучасных беларускіх паэтаў сярэдняга векам пакаленьня. Кнігі ягонае паэзіі ўжо ціраз былі вылучаныя для ўзнагароды, а тымчасам узнагароджанымі ня былі, тады калі дэмантстрацыйна былі ўзнагароджаныя творы зусім нізкае мастацкае якасьці, затое сугучныя партыйнай палітыцы ў літаратуры. Гэта лішні довад, што крытэрыі партыйнае ацэны літаратурных твораў груба супярэчныя іхным мастацкім, а ў некаторых выпадках, прыкладам, у выяўленьні нацыянальнага беларускага патрыятызму, навет ідэйным якасьцям.

**Ст. Станкевіч**

Byelorussian Heritage Festival
Saturday May, 19 1979
Garden State Arts Center

## ДОБРЫ ДЗЕНЬ, ДАРАГІЯ СЯБРЫ!

**З традыцыйнай беларускай ветлівасьцяй запрашаем Вас на Трэйці Беларускі Фэстываль, які адбудзецца ў суботу 19 травеня сёлета ў Цэнтры Мастацтваў штату Нью Джэрзі.**

**Фэстываль пачнецца падняцьцем сьцягоў а 10-ай гадзіне ўраньні. Пасьля адбудуцца спартовыя змаганьні, паказы талентаў вучняў беларускіх школаў і дзяцей беларускага паходжаньня, адчыняцца выстаўкі беларускага народнага мастацтва, паказы вырабаў народных умельцаў, выстаўкі кніжак, фатаграфіяў і г. д.**

**Упяршыню будуць інсцэнізаваныя беларускія абрады дажынкаў і вясельля.**

**На працягу цэлага дня будзе функцыянаваць кухня зь беларускімі стравамі й пітвом, кіёскі сувэніраў, будуць праводзіцца беларускія народныя гульні.**

**Заклікаем гэтта ўсіх прыяжджаць на Фэстываль ды прывозіць сваіх сяброў. Фэстываль — гэта вялікая беларуская сустрэча, спатканьне старых сяброў, успамін аб Беларусі, а галоўнае — паказ Беларускае Спадчыны ў Амэрыцы.**

**А 3-яй гадзіне папаўдні пачнецца мастацка-тэатральная праграма: песьні, танцы, выступленьні хораў, музычных калектываў, індывідуальных артыстаў.**

**Дык спадзяемся ўгледзецца на Фэстывалі!**

**Білеты замаўляйце ў:**

Vasil Rusak, Ticket Chairman
40 Deerfield Road
Somerset, N.J. 08873
Telephone 201-246-2145

Michas Bachar, Ticket Vice Chairman
30 W. Grochowiak St.
South River, N.J. 08882
Telephone 201-257-9234

**Вітаўт Кіпель**
**Старшыня Беларускага Фэстывальнага Камітэту**

* *
*

Гэткая афіцыйная адозва аб Фэстывалі была разасланая колькіцісячным тыражом да нашых суродзічаў, у органы друку, навучальныя ўстановы й г. д. Рэклямавая машына пачала працаваць. Сталася гэта магчымым толькі таму, што ўзноў знайшлася група энтузіястых-ахвотнікаў. Сёлета іх у Фэстывальным Камітэце 51 асоба, якія, добра ведаючы, што гэткага маштабу праекты нялёгкія, узяліся за працу.

Асноўныя матывы для гэтых энтузіястых гэткія:

Фэстываль — гэта адзіная магчымасьць папулярызаваць Беларусь у Амэрыцы на новым, арганізацыйна вышэйшым, узроўні.

Фэстываль — гэта імпрэза, якая найбольш прыцягвае маладое пакаленьне.

Фэстываль — гэта паказ беларускай культуры ў Амэрыцы, што стаецца мастом, які злучае і маладое, і старэйшае, і старое (даваеннае) пакаленьні Амэрыканцаў-Беларусаў у вадну вялікую Грамаду.

Фэстываль — гэта нагода паказаць беларускае мастацтва, песьні, скокі й народныя касьцюмы без дамешкі русыфікацыйных элемэнтаў, якія сілай накідаюцца ў савецкай Беларусі.

Фэстываль — гэта той дзень, калі пасьля цяжкое працы й хваляваньняў мы, Беларусы, маем пачуцьцё глыбокага маральнага задавальненьня.

Калі знаходзяцца энтузіястыя да самаахвярнае працы — абавязак шырэйшага грамадзтва нас падтрымаць, каб усім разам правесьці паказ у Амэрыцы Беларускае Культурнае Спадчыны.

**В. Кіпель**

*БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЕ ЗАДЗІНОЧАНЬНЕ*
*— Галоўная Управа —*
*— Управа Акругі Нью Ёрк — Управа Аддзелу ў Нью Джэрзі —*
*АРГАНІЗАЦЫЯ БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЙ МОЛАДЗІ*
*запрашаюць на*
*УРАЧЫСТАЕ СЬВЯТКАВАНЬНЕ 61-ЫХ УГОДКАЎ*
АБВЕШЧАНЬНЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ
АКТАМ 25 САКАВІКА 1918
*што адбудзецца ў*
*НЯДЗЕЛЮ, 25 САКАВІКА 1979.*
*У ПРАГРАМЕ:*
*10-ая гадз. ураньні: Урачыстая Божая Служба ў Катэдральным Саборы БАПЦ Сьв. Кірылы Тураўскага (401 Атлянтык Авэню ў Брукліне)*
*1-ая гадз. папаўдні: Урачыстая Бяседа ў залі Беларускага Грамадзкага Цэнтру пры 401 Атлянтык Авэню ў Брукліне.*

## АГУЛЬНЫ СХОД АДДЗЕЛУ БАЗА Ў НЬЮ ДЖЭРЗІ

У нядзелю 28 студзеня сёлета адбыўся чарговы перавыбарны Сход Аддзелу БАЗА ў Нью Джэрзі. Сход адчыніў і прывітаў гасьцей і сяброў заступнік старшыні Аддзелу БАЗА сп. Пётра Кажура. Старшыня Галоўнай Управы БАЗА А. Шукелайць, вітаючы Сход, адзначыў цеснае супрацоўніцтва Аддзелу з Галоўнай Управай і падтрымываньне Аддзелу ўва ўсіх мерапрыёмствах БАЗА. Старшыня Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі Ю. Азарка выказаў падзяку Аддзелу БАЗА за сталую дапамогу арганізацыі моладзі й зацікаўленьне праблемамі моладзі наагул.

Справаздачу зь дзейнасьці Аддзелу БАЗА зрабілі сп.сп. П. Кажура й Я. Азарка, а скарбнік Аддзелу сп-ня С. Швэд дала справаздачу з грашовай дзейнасьці Жаноцкай Сэкцыі БАЗА. Мінулы год быў характэрны цяжкай, але плённай працай. Вельмі ўрачыста былі адзначаныя 60-я ўгодкі аднаўленьня Незалежнасьці Беларусі: Аддзел прыняў актыўны ўдзел у сьвяткаваньнях у Нью Ёрку, куды сябры Аддзелу езьдзілі адмыслова нанятым аўтабусам; сябры Аддзелу з моладзяй прынялі ўдзел у прыняцьці ў гонар 25-га Сакавіка ў Вашынгтоне, быў падняты беларускі сьцяг пры гарадзкой ратушы ў Нью Брансьвіку, была атрыманая праклямацыя з нагоды 25-га Сакавіка ад губэрнатара штату Нью Джэрзі Б. Бэрна, многія кангрэсмэны й сэнатары выступілі ў Кангрэсе ЗША з прыхільнымі прамовамі, а а. Р. Войтанка прачытаў малітву ў Кангрэсе ЗША. Аддзел БАЗА прыймаў актыўны ўдзел у 13-ай Сустрэчы Беларусаў Паўночнае Амэрыкі ў Тароньце, Канада. Ня было забытае сяброўскае й культурнае жыцьцё, ладзіліся маёўкі, чыталіся лекцыі. Аддзел быў стала рэпрэзэнтаваны ў працы Камісіі „Нью Брансьвік заўтра" культурна-асьветным рэфэрэнтам сп-няй Г. Русак. Камісія гэтая плянуе адбудову Нью Брансьвіку ды эвэнтуальна будову этнічнага культурнага цэнтру. Сп. Б. Даніловіч, як заўсёды, рупліва распаўсюджваў беларускую прэсу.

Сход вынес уступаючай Управе Аддзелу БАЗА абсалютарыюм з падзякай. Асаблівае прызнаньне было выказанае Сходам сп. Сяргею Гутырычку за ахвярную шматгадовую працу ў Аддзеле на становішчы старшыні ўправы.

У новую ўправу Аддзелу выбраныя: сп.сп. П. Кажура — старшыня, Я. Азарка, сп-ня Г. Русак, сп. Б. Даніловіч, сп. Ю. Азарка, сп-ня Т. Януш ад Жаноцкай Сэкцыі, і сп. Ю. Станкевіч.

У плянах на будучыню было намечана: прыцягнуць моладзь у рады арганізацыі, далей цесна супрацоўнічаць з Галоўнай Управай БАЗА, ажывіць культурна-асьветнае жыцьцё, падтрымаць 3-ці Беларускі Фэстываль і далей супрацоўнічаць з Камісіяй „Нюч Брансьвік заўтра".

**Р. Б.**

**BIELARUS**

Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION. Inc.
Subscription $ 10. 00 yearly.

**„БЕЛАРУС"** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Выпіска зь перасылкаю — 10.00 дал. на год.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыялямі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

насьці Беларусі — тое, што засталося ад гістарычнае Беларускае Народнае Рэспублікі, што абстрагаванае ад палітычных партыяў і паасобных дзеячоў мінуўшчыны, ад іхных цнотаў і заганаў, жыве ў крыштальна чыстым стане, як лятуценьне народу, як канчальная Мэта.

І гэта яе, Ідэю Незалежнасьці, як найдаражэйшы, найзапаветнейшы ідэал, перахоўвае сяньня Рада БНР.

Пакінутая для нашчадкаў вялікім Сакавіком, Ідэя Незалежнасьці Беларусі мае сваё незапярэчнае пацьверджаньне ў сучасным сьвеце, у якім сілы нацыянальнага самавызначэньня разбурылі ўсе — за выняткам маскоўскае — старыя клясычныя імпэрыі; у якім прынцып самакіраўніцтваператварае ўзаемадачыненьні падпарадкаваных тэрыторыяў з цэнтральнымі ўрадамі на ўсіх пяцёх кантынэнтах, ад Шатляндцаў да Квэбэкцаў, да аўстралійскіх тубыльцаў.

Уся навейшая гісторыя сьвету пацьвярджае актуальнасьць 25 Сакавіка, абвешчанага ім прынцыпу дзяржаўнае незалежнасьці Беларусі. Перахопленая бальшавіцкай Масквой, Ідэя Незалежнасьці Беларусі па-

# ІДЭЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ СЯНЬНЯ

Савецкая гістарыяграфія й прапаганда, каб здыскрэдытаваць Беларускую Народную Рэспубліку, 61-я ўгодкі абвешчаньня якое мы адзначаем у гэтым месяцы, напорна й манатонна, насьвятляючы гістарычныя падзеі з гледзішча марксыцка-расейскага, канцэнтруе ўвагу на „грахох" і „заганах" БНР: „памешчыкі, буржуі, нацыяналістыя: пасылалі тэлеграму кайзэру; служылі імпэрыялістым" і г. д.. У гэтым патоку пустаслоўя й бруднаслоўя пакідаецца збоку найгалаўнейшае — Ідэя Незалежнасьці, вешаная й на фасадзе БССР, як свайго роду прызнаньне жыцьцёвасьці гэтае ідэі, хоць уся існасьць нацыянальнае незалежнасьці й нат нацыянальнае роўнасьці ў БССР ды СССР выкрыўленыя й пагвалтаваныя.

Але гвалт над ідэалам ня нішчыць ідэалу, ён адно пацьвярджае ягоную нязьнішчальнасьць. Ідэя Незалежнасьці Беларусі сяньня — найдакладнейшы крытэры пазнаваньня й ацэны рэчаіснасьці: усё правільнае й справядлівае, што адпавядае ідэалу Незалежнасьці, усё хвальшывае — што пярэчыць яму.

# АДКРЫТЫ ЛІСТ ДА МІХАСЯ КУКАБАКІ

**У бабруйскую сьледчую турму:**
**213827 г. Бабруйск**
**Учреждение УЖ 15/ИЗ-5**
**Беларуская ССР**

ДАРАГІ МІХАСЬ!

Праз эфірны гул і злавесную какафонію савецкіх глушылак дайшоў-ткі да Цябе зь Нью Ёрку, праз газэту „Беларус" і радыястанцыю „Свабода", мой адкрыты ліст, як я даведаўся пра гэта з адкрытага ліста да мяне Віктара Някіпелава, перададзенага мне нядаўна добрымі людзьмі. Напісаў я Табе, Міхась, свой ліст у палавіне верасьня летась, а толькі ў канцы студзеня сёлета даведаўся, што вестку маю Ты дастаў. Чатыры з палавінаю месяцы спатрэбілася ў век ЭВМ і НТР (электронна-вылічальных машынаў і навукова-тэхнічнае рэвалюцыі — Рэд. „Б") на тое, каб два суродзічы ў Амэрыцы й на Беларусі маглі скамунікавацца адзін з адным. Вестка з Амэрыкі да Бабруйску й назад за часамі Калюмба зайшла-б, мабыць, хутчэй як цяпер. Тады ёй ня трэба было прабівацца праз варожыя глушылкі, калючыя драты ды вынюхвальныя заставы цэнзараў. І ўсё-ж якая радасьць у гэтых нашых цяжкасьцях: ніякая злавесная воддаль ня здолела парваць вязьмо нашага з Табой аднадумства.

Адначасна, дарагі Міхась, дужа ўстрывожыла мяне перададзеная Віктарам вестка пра Твой паўторны, чацьверты ўжо, арышт. За што?! — пытаюся я сам у сябе. — За іконку над Тваім ложкам? За Твае думкі й жаданьні, што леглі ўпоперак сакрэтных партыйных інструкцыяў (бо-ж савецкая канстытуцыя, быццам-бы, дазваляе свабоду сумленьня й слова)? За жаданьне быць Беларусам з правам на сваю родную мову й гістарычную спадчыну? За адмову ад савецкага грамадзянства й намер выехаць з СССР? За што?!

Дарагі Міхась, Твае пакуты на „ўкрадзенай Радзіме" прысьпешылі ўтварэньне тут у Нью Ёрку Камітэту Абароны Вязьняў Сумленьня на Беларусі. Заснаваны ён людзьмі, што нарадзіліся на Беларусі ды якія, жывучы на Захадзе, памятаюць край і народ, зь якога паходзяць.

Першае, што Камітэт зрабіў, гэта — выканаў просьбу, перададзеную ад Твайго імя Віктарам Някіпелавам у ягоным лісьце да мяне з 3-га сьнежня 1978 году. Мы зьвярнуліся ў Тваёй справе да Амнэсты Інтэрнашэнал, а таксама да Беларускага Замежжа. Мы абвесьцілі збор грашовых ахвяраў у фонд дапамогі вязьням сумленьня на Беларусі: Табе, Аўгену Бузіньнікаву ды іншым. Твой шчыры прыяцель ген. Грыгарэнка напісаў пра Цябе ліста да Джорджа Міні, кіраўніка Амэрыканскае Фэдэрацыі Працы й Кангрэсу Прамысловых Арганізацыяў ды абяцаў памагаць далей, чым толькі здолее. Праз Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне ды іншыя беларускія арганізацыі на Захадзе мы азнаямляем цяпер парлямэнтарыяў і органы друку дэмакратычных дзяржаваў з фактамі пра бяздушны перасьлед Цябе савецкаю паліцыйнаю ўладай.

Мы робім таксама стараньні, каб выдаць друкам Твае нарысы, лісты й іншыя матарыялы, зьвязаныя з Тваім змаганьнем і Тваймі пакутамі.

Дарагі Міхась, мы ведаем, што пайшоў Ты цярністым і небясьпечным шляхам. Ідэялягічныя паняволікі нашага народу будуць цяпер усімі сіламі намагацца зламаць Тваю адпорнасьць і Тваю перакананасьць у тым, што праўда на Тваім баку. Яны йшчэ больш будуць імкнуцца ізаляваць Цябе ад кантактаў з Тваім навакольлем ды з вонкавым сьветам, з Тваймі сябрамі й аднадумцамі.

Але няхай ведаюць: ЗБМ і НТР працуюць ня толькі на гвалтаўнікоў і здушвальнікаў вольнае думкі, але й на Свабоду. Мы будзем прасіць усіх, каму гэтая Свабода дарагая, каб яны памагалі нам быць у ўзаемнай лучнасьці, каб Ты і ў кадэбэшніцкай адзіночцы не пакідаў адчуваць, што нас з Табою лучаць у вадно сьветлыя ідэалы Ўсеагульнае Дэклярацыі Правоў Чалавека й свабоды Беларусі.

**Янка Ханенка**

# ЖАНЧЫНЫ БЕЛАРУСІ

Як даведваемся зь менскага часапісу „Работніца і Сялянка" (№ 12, 1978), жанчыны Беларусі складаюць 53% работнікаў і служачых і 56% калгасьнікаў. У сфэры разумовай працы на іхную долю прыпадае 57%. 41% інжынерна-тэхнічных работнікаў, а сярод іх кажны трэйці інжынер і галоўны спэцыялісты — жанчыны. Яны складаюць 16% дырэктараў заводаў і хвабрыкаў. вялікую долю кіраўнікоў калгасаў, саўгасаў, школаў. У Акадэміі Навукаў БССР 40% вучоных — жанчыны.

# ПАПРАЎКА

Фундацыя Льва Сапегі гэтай дарогай шчыра дзякуе сваяком сьв. пам. Пралата Пётры Татарыновіча за ахвяраваньне зь ягонай спадчыны згаданай Фундацыі сумы $ 1.000. 00 на выдавецтва беларускіх кніжак.

# САВЕЦКІЯ ІМПЭРЫЯЛЬНЫЯ МЭТЫ

У вадкрытым лісьце да Прэзыдэнта Картэра звыш 170 вышэйшых амэрыканскіх ахвіцэраў, гэнэралаў і адміралаў у вадстаўцы, — як падае „Нью Ёрк Таймс", — асьцерагаюць яго, што Савецкі Саюз нясупынна ймкнецца і робіць посьпехі на дарозе да дасягненьня сваіх „імпэрыяльных мэтаў". У ліку падпісаўшых гэты публічны ліст ёсьць 21 гэнэрал і чатыры адміралы, а між імі наступныя: адм. Э. Цумволт, ранейшы шэф марскіх апэрацыяў ,ген. П. Фрыман, калішні камандзер арміі ў Эўропе, ген. Т. В. Паркэр, былы шэф штабу арміі ў Эўропе, ген. А. Вэдэмэер, камандзер апэрапыяў ваенных адрэзкаў Кітаю пры заканчэньні Другой сусьветнай вайны, ген. Дж. Сінгляўб, былы шэф штабу сіл ЗША ў Карэі і ген. Ж. Кіган, былы шэф разьведкі пры паветраных сілах Амэрыкі.

У сваім лісьце да Прэзыдэнта гэтыя калісь высокапастаўленыя вайскоўцы, заяўляюць, што „найбольш аўтарытэтная ацэна даных амэрыканскае разьведкі пацьверджае факт, што Саветы ня імкнуцца да выраўнаньня, а да перавагі сваіх мілітарных сілаў над краінамі Вольнага Захаду, а пераважна Задзіночаных Штатаў".

Фінляндызацыя Заходняй Эўропы ёсьць адным зь першых „імпэрыяльных аб'ектаў". Што такое фінляндызацыя? Краіна ці група краінаў, не зьяўляецца савецкім сатэлітам, але фактычна ёсьць на паслугах Масквы, гэтак як сяньняшняя Фінляндыя. Нэўтралізаваць Зах. Эўропу Савецкі Саюз намагаўся-б праз адрэз ці кантролю даплыву да яе нафты з Блізкага Ўсходу. Абкружэньне Кітаю і далейшая ізаляцыя Задзіночаных Штатаў стаяць на першай чарзе. Адсюль можна вытлумачыць падтрыманьне Масквою камуністычнага Ветнаму й акупацыю апошнім Камбоджы, як яшчэ адзін рух наперад у мілітарным абкружэньні найбольшай лікам насельніцтва вялікай дзяржавы ў сьвеце. Няма сумлеву, што Кітайцы не дазволілі-б Ветнамцам забраць Камбоджу, калі-б за гэнымі не стаяла Масква.

Старэйшыя амэрыканскія ахвіцэры ў сваім лісьце да Прэзыдэнта сьцьвярджаюць, што ў выпадку вайны на Блізкім Усходзе, бяз ужытку ядзернай зброі, адно сілы Ізраэля маглі-б стрымаць ці запаволіць камуністычныя арміі. Калі-б ня мілітарны Ізраэль, Амэрыцы трэба было-б трымаць у гэным раёне свае вялікія сілы. Ведамыя савецкія здабычы ў Афрыцы, пры помачы кубінскіх наймітаў ды здабычы на Арабскім паўвостраве ўжо фактычна забясьпечылі Маскве кантролю ўваходу ў Чырвонае мора з паўдня, а ракетныя ўстаноўкі ў Анголі ці Мозамбіку могуць быць выкарыстаныя для спыненьня даставаў нафты ў Эўропу навокал Паўдзённай Афрыкі. Справу яшчэ больш камплікуе зусім новая палітычная сытуацыя ў Іране. Ход падзеяў там далёка яшчэ не сканкрэтызаваны, аднак ведама, што мадэрная й добра забясьпечаная армія шаха, што вымушаны быў пакінуць сваю краіну пад ціскам рэлігійных мусульманскіх сілаў, ужо не стаіць гатовай памагчы дзяржавам Паўночна-Атлянтычнага Пакту ў выпадку патрэбы.

Апошнімі гадамі чуем шмат пра раззбраеньне. Яно, раззбраеньне, здаецца належыць да найстарэйшых праблем сьвету. І палітыкі, як звычайна, „таўкуць ваду ў ступе" пра патрэбу раззбраеньня ў той час, калі вялікія дзяржавы фактычна праводзяць гонку прадукцыі зброі. Масква, як ведама, ніколі не датрымала ніякае, ей нявыгаднае ўмовы. І сяньня дзіўна, што пасьля таго, як савецкі антынародны рэжым вынішчыў, паводля сьціплых ацэнаў, 35 мілёнаў сваіх грамадзянаў, ніколі не датрымаў ніякай міжнароднай умовы, Амэрыканцы ці іншыя заходнія палітыкі адносяцца сур'ёзна да ўмоваў зь ім.

З другога боку, паводля апошніх падлічэньняў, колькасьць атамнае зброі ў ваенных складах сяньня перавышае ўзрыўную сілу звыш мілёна атамных бомбаў, як тая, што некалі зруйнавала Гірашыму. Гэная бомба забіла 140 тыс. людзей, значыцца сяньняшні арсэнал могбы вынішчыць 140 міліярдаў, а на сьвеце ўсяго цяпер жыве каля чатырох і цьверці міліярдаў. Амэрыканская палітыка да гэтага часу трымалася на дактрыне г. зв. супольнага забясьпечаньня зьнішчэньня, г. зн. раз пачатая атамная вайна зьнішчыць усіх, ня будзе пераможцаў ані пераможаных, бо ніхто ня выжыве.

У сьвятле наяўнасьці такога аграмаднага складу атамнае зброі палітыка найбольш магутнае дзяржавы ў сьвеце, Задзіночаных Штатаў, лад якое пабудаваны на гуманітарных прынцыпах, была зусім зразумелая. Адылі, як выглядае, Савецкі Саюз, значыцца мілітарна найбольш магутная дзяржава ў сьвеце, лад якой аснованы на антыгуманітарных прынцыпах, трымаецца іншае канцэпцыі. Як вынікае з багатае савецкае мілітарнае літаратуры, бальшавікі прадугледзяць магчымасьць ваеннага канфлікту з ужыцьцём атамнае зброі, які, наўсуперак поглядам Амэрыкі, не абавязкава ўсіх мае зьнішчыць. Значыцца, Масква думае, што атамны канфлікт ня толькі можна перажыць, але й праціўніка ў такой вайне перамагчы. Адпаведна Савецкі Саюз і рыхтуе свае ваенныя сілы.

Характэрна, што амэрыканскі ўрад, наўсуперак шматлікім „мірным галубом" у Кангрэсе, прапануе й сёлета павялічыць бюджэт на ваенныя выдаткі. Праўда, павялічэньне гэта сьціплае, — адно на 3%. У працягу дзесяцігодкі, ад 1967 да 1977 году, выдаткі Варшаўскага Пакту на збраеньне павялічыліся на 28,6%, у той час як выдаткі НАТО паменшыліся на 10.8%. Задзіночаныя Штаты ў гэны самы пэрыяд зрэдукавалі свае ваенныя выдаткі на 34,5%. Запраўдны мілітарны бюджэт Савецкага Саюзу сягае адно 80% ваенных выдаткаў Задзіночаных Штатаў, аднак гэта амаль ня мае ніякага значаньня таму, што адзін рубель на прылады забойства купіць больш чымся адзін амэрыканскі даляр. Як ведама, прымусовая ваенная служба ў маскоўскай імпэрыі ніколі шмат не каштавала. Амэрыканскія-ж сілы збройныя, сяньня на добраахвотных умовах, каштуюць шмат. Значыцца Масква можа з тае самае сумы куды больш выдаць на зброю, тымчасам як Амэрыканцы галоўную долю грошай аддаюць на ўтрыманьне ваеннага пэрсаналу.

Вышэйшыя амэрыканскія ахвіцэры, аўтары адкрытага ліста да Прэзыдэнта, як зрэшты й бальшыня ахвіцэраў, кіраваліся-ж пэўне ў сваіх мяркаваньнях ваеннымі катэгорыямі, так як іх некалі навучыла думаць ваенная школа й доўгая ваенная практыка. Трывогу за лёс вольнага сьвету базуюць яны на найвышэйшай і аўтарытэтнай аналізе амэрыканскае разьведкі. А разьведка гэтая, як ведама, дыспануе цяпер надта дакладнымі тэхнічнымі сродкамі. Значыцца, магчымасьць памылкі ў ацэне росту сілаў Савецкага Саюзу мінімальная.

Але, як звычайна здараецца, палітыкі могуць не зьвярнуць увагі й на гэтае папярэджаньне, аж пакуль будзе запозна. Амэрыканскім палітыкам, як звычайна, патрэбная папулярнасьць, каб выйграць наступныя выбары. Значыцца, галасы старэйшых і затрывожаных вайскоўцаў памогуць у выйгрышы наступных выбараў, як кашаль паможа хваробе. Калі-б вось такі ліст да Прэзыдэнта напісалі навукоўцы, сьвятары, якіясь грамадзкія актывістыя, дык нарабіў-бы ён куды больш шуму, дый адзін ці другі палітык зьвярнуў-бы на яго ўвагу.

**К. Акула**

# НА ЎГОДКІ СЬМЕРЦІ АЛЕСЯ САЛАЎЯ

22 студзеня сёлета мінулі першыя ўгодкі перадчаснай сьмерці ў далёкай Аўстраліі выдатнага беларускага паэты-лірыка Алеся Салаўя. Ня будучы крытыкам ні літаратуразнаўцам, ня зьбіраюся пісаць аб ягонай творчасьці, затое хачу пакінуць па ім пару словаў успамінаў, як аб чалавеку, якім я яго ведаў.

З Алесем Салаўём (запраўднае ймя й прозьвішча — Альфрэд Радзюк) мне давялося пазнаёміцца, нейкі час працаваць разам, пасябраваць і навет жыць у супольнай кватэры ў часе апошняй вайны напачатку 1944 году ў Рызе. Быў ён тады яшчэ вельмі маладым чалавекам. У вольны ад працы час, пераважна вечарамі, пісаў вершы й шмат чытаў, галоўным чынам паэзію, якая найбольш яго цікавіла. Можна сказаць, ён жыў паэзіяй. Матарыяльны бок жыцьця яго мала цікавіў, дык і цярпеў недастачу, холад у кватэры, часта не даядаў.

Побач з творамі Максіма Багдановіча й чужых клясыкаў захапляўся й некаторымі мадэрнымі паэтамі, усялякімі імажыністымі й футурыстымі з пачатку бягучага стагодзьдзя тыпу расейскага Ігара Севераніна. Калі аднойчы Пётра Мірановіч, выдатны беларускі мастак, якому ён прысьвяціў адзін зь вершаў („Мастак") у сваім першым зборніку лірыкі „Мае песьні", у гутарцы з паэтам шчыра сказаў яму, што любіць раньнія творы Янкі Купалы й Якуба Коласа, а вершаў сучасных паэтаў ня чытае, амаль абурыўся. Ня мог сабе ўявіць, як гэта можна ня чытаць вершаў?! Якраз у тым часе ён рыхтаваў да друку згаданы зборнік сваіх вершаў, які й выйшаў у ліпені таго-ж году. Памятаю, ён прыдумаў некалькі варыянтаў загалоўку гэнага зборніку, але ніводзін яго не задавальняў. Я тады яму запрапанаваў, што пакольку ён Салавей, дык найлепш назваць зборнік проста „Мае песьні", з чым ён неяк лёгка згадзіўся. (Дарэчы зазначыць: на першай бачыне падараванага аўтару гэтых успамінаў паэта собскаручна напісаў: „Міламу Ўладзімеру Брылеўскаму, майму дарагому сябру й супрацоўніку пры выданьні гэтае кнігі. Алесь Салавей. Рыга, 20 ліпеня 1944 г." — Рэд.).

У прыватным жыцьці быў Алесь Салавей чалавекам вельмі сьціплым, мяккага характару, крыху нясьмелым, але шчырым і сяброўскім, вельмі сэнтымэнтальным, крыштальна сумленным. Стараўся дапамагчы другому чалавеку ў бядзе. Быў гарачым, але ня крыклівым, беларускім патрыётам, бяз афэктацыі й дэклямаваньня аб сваім патрыятызьме. Ня любіў хвалькоў, гіпакрытаў, пустазвонаў, самалюбаў, эгаістаў, людзей позы й таннага эфэкту, апанаваных маніяй вялікасьці.

Быў ён вельмі чулым на чужое гора. Памятаю, у нашай кватэры СД арыштавала нейкага Лятувіса, сваяка нашай гаспадыні, які прыехаў з Коўні й зайшоў, каб зь ёй пабачыцца. Алесю Салаўю гэта прыгадала арышт бальшавікамі ягонага бацькі ў 1937 годзе й ягоны ўласны ўвосені 1941 году, калі яго арыштавала ў Ільлі (у Вялейскай акрузе) польская паліцыя ў нямецкай службе. Ён ня мог супакоіцца аж пакуль мы ўдваіх не пайшлі ў гатэль, у якім быў затрымаўшыся гэны Лятувіс, і папрасілі гатэльную адміністрацыю, каб яна паведаміла аб арышце жонку арыштаванага. Гатэльная служба вельмі зьдзівілася, што мы, зусім чужыя, навет незнаёмыя гэнаму Лятувісу людзі, прыйшлі з такой просьбай, але ўсё-ж нашую просьбу выканала — пры нас-жа затэлефанавала ў Коўню й перадала жонцы арыштаванага сумную вестку. Калі мы, выходзячы з гатэлю, ёй шчыра падзякавалі, яна нам сказала: „Мы, Латышы — вельмі чэрствыя, а вы, Славяне — зусім іншыя". Ужо на вуліцы, калі мы вярталіся дамоў, Алесь Салавей, хоць практыкуючым каталікам ня быў і навет лічыў сябе вальнадумцам, зь вялікім аблягчэньнем мне сказаў: „Як добра, што мы выканалі наш хрысьціянска-маральны абавязак". І расказаў мне тады пра сваю неспадзяваную, вельмі няпрыемную сустрэчу ў Рызе, у публічным месцы (здаецца, у рэстаране), з шэфам нямецкага СД у Вялейцы Гравэ (з балтыцкіх Немцаў), аб якім піша Я. Малецкі ў сваёй кнізе „Пад знакам Пагоні". „Гравэ ўгледзеўся ў мяне — казаў Алесь — і спытаўся: — Дзе я вас бачыў?" Алесь не разгубіўся й спакойна адказаў: „Вы напэўна памыляецеся, бо я вас зусім ня ведаю".

Пазьней, увосені 1944 году, нашая гаспадыня (жонка Міколы Дзямідава, старога беларускага вайсковага й асьветна-грамадзкага дзеяча, у часе Другой сусьветнай вайны акруговага школьнага інспэктара ў Лідзе) казала мне, што Алесь Салавей, выяжджаючы ў жніўні гэнага году з Рыгі, вельмі шкадаваў, што мяне з жонкай ня было ў той час у Рызе, што мы не змаглі выехаць разам зь ім. Ад Рыгі нашыя шляхі разыйшліся й ужо ніколі мне не давялося ўзноў сустрэцца з Алесем Салаўём.

**Уладзімер Брылеўскі**

# ТВОРЫ БЕЛАРУСКАЕ МАСТАЦКАЕ ПРОЗЫ

## ЎЗНАГАРОДЖАНЫЯ ДЗЯРЖАЎНЫМІ ПРЭМІЯМІ БССР 1978 ГОДУ

Дзяржаўнымі прэміямі БССР 1978 году ўзнагароджаныя дзьве аповесьці Васіля Быкава „Воўчая зграя" й „Яго батальён" ды аповесьць Івана Пташнікава „Найдорф". Узнагароджаньне гэтых твораў хавае ў сабе цікавыя сакрэты партыйнай палітыкі ў дачыненьні да беларускай літаратуры.

Аповесьць Васіля Быкава „Воўчая зграя", што ўпяршыню зьявілася ў друку ў 1974 годзе, разгортае тэму партызанскага змаганьня на Беларусі ў мінулай вайне. Адразу пасьля ейнага зьяўленьня ў часапісе „Маладосьць" студыя „Беларусьфільм" пачала яе экранізаваць, прысьвяціўшы свой фільм паводля гэтай аповесьці 30-ым угодкам перамогі ў мінулай вайне. Гэта паказвала, што аповесьць „Воўчая зграя" была вызнаная поўнасьцяй сугучнай тагачаснай партыйнай ацэне партызанскага руху на Беларусі.

Але калі ўглыбіцца ў ідэйны зьмест аповесьці, асабліва ў ейны глыбокі падтэкст, а таксама ў лёгіку адлюстроўваных у ёй падзеяў, дык акажацца, што аповесьць гэтая штонайменш нэўтральная, а ня сугучная гэнай ацэне. Вымаганага партыяй асэнсаваньня партызанскага руху, як выяву бяспрыкладнага савецкага гэраізму й бязьмежнай адданасьці беларускага народу ідэі камунізму, што быццам стыхійна паднялі беларускі народ на актыўнае змаганьне, у вапове́сьці „Воўчая зграя" няма й заваду.

Затое ёсьць у вапове́сьці гэраізм іншае, вышэйшае катэгорыі, гэраізм не савецкі, а нацыянальны й агульналюдзкі, прадыктаваны прыроджаным беларускаму народу глыбокім гуманістычным пачуцьцём чалавечнасьці й чалавекалюбнасьці. Не дарма-ж галоўных гэрояў аповесьці беларускіх сялянаў у партызанскіх радох Ляўчука й Грыбаеда надзяліў пісьменьнік багата, куды багацей, чымся беларускіх гэрояў сваіх ранейшых аповесьцяў, тыпова нацыянальнымі беларускімі рысамі. Гэта падчыркнуў яшчэ першы рэцэнзэнт гэтай аповесьці ў газэце „Літаратура і Мастацтва" за 6 верасьня 1974 году Н. Валадкевіч, кажучы, што „Ляўчук яшчэ ў большай ступені, чым гэроі папярэдніх твораў Васіля Быкава, увабраў у сябе найбольш тыповыя рысы беларускага характару".

Тое-ж самае, ды яшчэ ў большай ступені, можна заўважыць і ў другога, далёка ня другараднага пэрсанажу-партызана ў вапове́сьці — беларускага селяніна Калістрата Грыбаеда. Дый сама ідэйная пазыцыя, зь якой падходзіць пісьменьнік да асэнсаваньня партызанскай вайны на Беларусі, таксама чыста нацыянальная. Заміж дырэктыўна патрабаванага даваньня ў творах пра вайну пяршынства й перавагі гэраічнага аспэкту вайны, у вапове́сьці „Воўчая зграя", як і ў ранейшых аповесьцях Васіля Быкава ды ў лепшых творах пра вайну іншых беларускіх пісьменьнікаў, пакладзены галоўны націск на зусім іншы аспэкт вайны. Аспэктам гэтым найбольш блізкая й кроўная для беларускіх пісьменьнікаў зьява нявымоўных мукаў і бяспрыкладнага пакутніцтва беларускага народу, жахлівы й няўхільны трагізм ягонае долі, спрычынены партызанскай вайной.

Васіль Быкаў, незраўнаны майстра ў перадачы глыбокіх перажываньняў людзей на вайне, у вапове́сьці „Воўчая зграя" раскрыў трагізм людзкой долі хіба найглыбей. Найлепш гэта відаць на прыкладзе Грыбаеда, пра якога аўтар кажа: „Жахаў у гэтую вайну хапала, але Грыбаедава гісторыя была асабліва жахлівая. Невядома, ці на тое былі якія прычыны, ці можа проста здарыўся кепскі выпадак — сапраўды, такі ўжо лёс, — але перажыў стары столькі, што не пажадаеш ворагу. І часткава праз сваю дабрату".

У часе дзеі аповесьці ездавы Калістрат Грыбаед меў 45 год, а выглядаў на 60. Пасьля прыходу нямецкай арміі Грыбаед жыў разам зь сям'ёй і працаваў на сваёй гаспадарцы ў лясной вёсачцы Выселках. Аднойчы да яго прыбіліся чатырох акружэнцаў зь цяжка раненым палкоўнікам-танкістым і палітруком з просьбай дапамогі. Грыбаед прытуліў іх із звычайнай людзкай літасьці спачатку ў сваёй хаце, а пазьней — у выкапанай у блізкім лесе зямлянцы. Нямецкія карнікі, даведаўшыся пра гэта, зьнішчылі ўсю Грыбаедаву сям'ю, а яго самога расстралялі ў патыліцу. Ноччу наткнуліся на яго партызанскія разьведчыкі, што ведалі яго раней, і забралі ў атрад, каб назаўтрае пахаваць Тымчасам, як нічога ня бывала, Грыбаед, будучы адно кантужаным, а не забітым, назаўтрае рана, на вялікае зьдзіўленьне партызанаў, падыйшоў да партызанскага вогнішча пагрэцца. Гэтак апынуўся Грыбаед у партызанах і служыў ездавым санчасьці, аж пакуль не загінуў у вельмі трагічных абставінах.

Падобна й Ляўчук далучыўся да партызанаў зь бязвыхаднай канечнасьці. Калі пад Горадняй Немцы разьбілі полк, у якім ваяваў, ён уцёк з акружэньня, дабраўся ў родную вёску Курачкі пад Старобінам і памагаў бацьку ў гаспадарцы. Але неўзабаве гэткіх, як ён, акружэнцаў пачалі акупацыйныя ўлады выклікаць у раён быццам для рэгістрацыі, адкуль ужо не вярталіся. Калі-ж выклікалі й яго, ён уцёк у лес і далучыўся да партызанаў. У аповесьці няма ніводнай згадкі пра тое, каб хтосьці зь беларускага жыхарства, кіруючыся савецкім патрыятызмам, із собскае ахвоты пайшоў у партызаны. Кажнага гнала ў лес бязвыходная канечнасьць, як адзіная магчымасьць перагрываць вайну й астацца жывым.

Аповесьць Васіля Быкава „Воўчая зграя" з кажнага гледзішча адно з найвышэйшых творчых дасягненьняў пісьменьніка й адзін з найвыдатнейшых твораў сучаснай беларускай літаратуры. Пасьля „Альпійскай баляды" гэта й найбольш нацыянальна беларуская аповесьць Васіля Быкава. Гэта й пераконлівае сьветчаньне таго, што Васіль Быкаў, анічуць не заламаўшыся пад цяжарам сыстэматычных на яго нападаў партыйнае крытыкі, усьцяж застаецца самым сабой. І тут даходзім да найважнейшай высновы: не Васіль Быкаў скапітуляваў перад партыяй, як у падобных выпадках рабілі некаторыя іншыя пісьменьнікі. Наадварот, партыя скапітулявала перад Васілём Быкавам, узнагародзіўшы яго Дзяржаўнай прэміяй БССР.

***

У вадрозьненьне ад аповесьці Васіля Быкава „Воўчая зграя" на тэму партызанскага змаганьня на Беларусі другая ўзнагароджаная Дзяржаўнай прэміяй БССР 1978 году ягоная аповесьць „Яго батальён" разгортае тэму франтавой вайны. Але ня толькі гэтым розьняцца абедзьве ўзнагароджаныя аповесьці Васіля Быкава, але й галоўна тым найважнейшым, што ў вапове́сьці „Воўчая зграя" пакладзены асаблівы націск на народнае пакутніцтва, спрычыненае партызанскай вайной, тымчасам як у вапове́сьці „Яго батальён" ува ўсёй сваёй паўніні й глыбіні паказаны чалавек на вайне. Апрача гэтага, дакладней у сувязі з гэтым у падтэксьце аповесьці „Яго батальён" пісьменьнік асуджае гэткія зьявы савецкай сыстэмы ў часе мінулай вайны, як агульная непадрыхтаванасьць савецкай арміі да вайны, як сьляпое выкананьне навет недарэчных і самагубных загадаў, што йшлі ад самога Сталіна, як хвараблівыя асабістыя амбіцыі каманьдзераў і палітрукоў. А ўсё гэта, разам узятае, павялічвала лішнія страты ў людзях і ўзбраеньні.

Кажучы іншымі словамі, пісьменьнік у вапове́сьці „Яго батальён" яшчэ раз паўтарыў свае зьвінавачаньні пад адрысам савецкай сыстэмы, якія ставіў у вапове́сьцях „Мёртвым не баліць", „Праклятая вышыня", „Круглянскі мост", за якія Васіль Быкаў войстра быў заатакаваны вайсковымі й партыйнымі коламі ды ўслужлівай для гэтых колаў літаратурнай крытыкай. Трэба не забывацца, што згаданыя тры аповесьці Васіля Быкава ў вялікай няласцы й сяньня. Пасьля іхнага надрукаваньня ў літаратурных часапісах ,больш яны ня перавыдаюцца.

І вось штосьці несамавітае: за аповесьць „Яго батальён" сяньня Васіль Быкаў узнагароджваецца Дзяржаўнай прэміяй БССР, і гэта не зважаючы на тое, што аповесьць „Яго батальён" паўтарыла тыя самыя асуджэньні савецкай сыстэмы, за якія ранейшыя ягоныя аповесьці трапілі ў няласку. Значыцца, не Васіль Быкаў у гэтым выпадку **скапітуляваў перад партыяй**, а, наадварот, партыя скапітулявала перад ім.

Вось аўтарскія словы Васіля Быкава ў вапове́сьці „Яго батальён" пра ейнага галоўнага гэроя Валошына:

„Ішла вайна, гінулі сотні тысяч людзей ,асобнае чалавечае жыцьцё, здавалася, страціла звычайны свой кошт, вызначалася толькі мерай шкоды, якую яно наносіла ворагу. І тым ня менш, будучы сам салдатам і сам кожную хвіліну рызыкуючы галавой, Валошын ня мог не адчуваць, што ўсё-ж самае каштоўнае на вайне — жыцьцё чалавека. І чым больш у чалавеку сапраўды чалавечага, тым важней для яго сваё ўласнае жыцьцё і жыцьці блізкіх яму людзей. І ў той-жа час якім-бы ні было дарагім жыцьцё, ёсьць рэчы, даражэйшыя за яго, нават ня рэчы, а паняцьці, пераступіўшы цераз якія, жыцьцё траціла сэнс, рабілася прадметам ганьбы, а можа, і цяжарам для сябе самога . . ."

Любоў Карніловіч у сваім водгуку на аповесьць „Яго батальён" у газэце „Літаратура і Мастацтва" за 17 лістапада летась трапна ўгледзела ў гэтай аповесьці ключ да разуменьня галоўнай ідэі ўсёй творчасьці Васіля Быкава, а ягоную аповесьць „Яго батальён" уважае за адзін зь лепшых апошніх твораў пісьменьніка. Васіль Быкаў інфармуе, што несправядліва абыйшоўся з каманьдзерам батальёну Валошынам ягоны франтавы лёс. Валошын быў адхілены ад камандваньня батальёнам, бо не патрапіў узяць ад ворага апанаванай ім вышыні, да рэчы, зусім бязвартаснай із стратэгічных мяркаваньняў. Сам аўтар камэнтуе гэтую няўдачу Валошына гэтак:

„Але ён іначай ня мог. Ён ня мог узьнімаць батальён пад такім агнём — гэта было-б сьвядомым яго зьнішчэньнем. Роты, зрэзаныя кулямётным шквалам, назаўжды-б засталіся на яе мёрзлых схілах . . ."

Больш таго. У заканчэньні аповесьці, калі Валошын усё-ж далучаецца да батальёну, дакладней да нямногіх недабіткаў ягоных, Васіль Быкаў завяршае ягоную характарыстыку гэткімі словамі:

„Усё было вырашана — ён вярнуўся ў свой батальён. Няважна, што яго там чакала, ня мела значэньня, як яму будзе далей. Галоўнае — быць з тымі, зь кім яго зраднілі франтавыя пакуты, зь кім ён гінуў, уваскрасаў і, як умеў, рабіў сваю салдацкую справу. Ён быў упэўнены, што яму ня сорамна будзе глядзець у вочы сваім падначаленым, сумленьне яго спакойнае. І калі ён для іх ужо не камбат, дык што гэта мяняе? Можа, ён яшчэ болей — ён іх таварыш. Для тых, хто выбіў Немцаў з гэтай траншэі і хто застаўся ў сьвежай, толькі што закапанай магіле, дзе вельмі проста мог-бы ляжаць і ён. Але воля выпадку распарадзілася інакш: у поўнай адпаведнасьці са сваёй сьляпой сілай. Яна не ўладарна толькі над яго чалавечнасьцю".

На праблему дачыненьняў партыі да твораў Васіля Быкава, у прыватнасьці да ўзнагароджаных Дзяржаўнай прэміяй БССР 1978 году, зыркі сноп сьвятла кідае наступная справа. 14 сьнежня летась адбыўся аб'яднаны пленум праўленьняў творчых саюзаў БССР, на якім, побач з многімі прамоўцамі, выступіў і намесьнік начальніка Палітупраўленьня Чырвонасьцяжнай Беларускай Ваеннай Акругі М. Шапалін. Вось ягоныя словы: „Цяжка назваць прозьвішча беларускага празаіка, драматурга, паэта, які-б ня пісаў аб воінах савецкай арміі, ня прысьвячаў ім сваіх натхнёных радкоў".

Але сярод названых ім пісьменьнікаў Алеся Адамовіча, Івана Мележа, Міхаіла Кругавых, Івана Шамякіна, Пятруся Броўкі, Аркадзя Куляшова, Максіма Танка, Пімена Панчанкі, што прысьвячалі свае творы воінам савецкай арміі, М. Шапалін не ўважаў за патрэбнае назваць Васіля Быкава, які літаральна ўсю сваю творчасьць прысьвяціў савецкім воінам. Усе ягоныя творы перакладзеныя на расейскую мову й найбольш пашыраныя ня толькі ў Савецкім Саюзе, а й за ягонымі межамі. Навет із свайго чыста службовага абавязку М. Шапалін ведаць іх павінен. На

(Заканчэньне на 4-й бач.)

## БЕЛАРУСКАЯ АЎДЫЕНЦЫЯ Ў ПАПЫ



**Уладыка Часлаў Сіповіч уручае Айцу Сьвятому ў падарку сваю кніжку "The Pontifical Liturgy of St. John Chrysostom" — манускрыпт із XVII стагодзьдзя ў славянскім тэксьце й лацінскім перакладзе**



**Гэта ўзапраўды гістарычны мамэнт: Уладыка Часлаў вітае Папу Яна Паўла Другога пабеларуску, коратка прадстаўляючы патрэбы Беларусаў; Сьвяты Айцец уважна слухае й не патрабуе перакладу**

Япіскап Часлаў Сіповіч усярэдзіне студзена сёлета меў сустрэчу із Сьв. Айцом Янам Паўлам Другім сам-насам на працягу чэцьверці гадзіны дзеля абмеркаваньня розных пытаньняў. Уладыка Часлаў перадаў Сьв. Айцу напісаную палацінску просьбу, падпісаную ім самым і ўдзельнікамі зьезду беларускіх сьвятароў: архімандрытам Уладзімерам Тарасэвічам, мітрафорным архідыяканам Аляксандрам Надсонам, а. Кастусём Маскалікам ды а. Рабэртам Тамушанскім.

Калі вышэй пералічаныя сьвятары былі запрошаныя ў прыватную канцылярыю Сьв. Айца, Япіскап Часлаў Сіповіч прачытаў кароткае рэзюме лацінскага тэксту пабеларуску — **упяршыню ў гісторыі Царквы без патрэбы перакладу.** Сьв. Айцец зразумеў усё; адзінае слова, якое ён папрасіў Япіскапа паўтарыць, гэта — „сьвятарства". Уладыка Часлаў гаварыў пра пакліканьне кандыдатаў на сьвятарства, якое нам гэтак патрэбнае.

Сьв. Айцец у сваім адказе сказаў, што ён поўнасьцяй усьведамляе сабе ўсе гэтыя патрэбы, поўнасьцяй падзяляе іх з намі ды зробіць усё, што ў ягоных сілах, каб знайсьці шляхі да разьвязаньня іх. Хоць ён ня мог даць нам адразу-ж канкрэтнага адказу, ён сказаў, што пазнаёміцца зь імі, памоліцца пра іх ды, трэба спадзявацца, дасьць неўзабаве поўны адказ.

Тады, у знак высокае пашаны, сыноўнае адданасьці й сардэчнае ўдзячнасьці, Япіскап Сіповіч перадаў Сьв. Айцу падпісаную сваю кнігу „Пантыфікальная Літургія Сьв. Яна Хрызастома", толькішто выдадзеную ў Лёндане ды прысьвечаную прапаведнікам і мучанікам за царкоўнае адзінства на Беларусі. Сьв. Айцец прыняў яе з глыбокай удзячнасьцяй і найлепшымі пажаданьнямі.

Пасьля сфатаграфаваньня з усёй групай ды зь Япіскапам Сіповічам асобна, Сьв. Айцец правёў нас да дзьвярэй, разьвітаўся з кажным з нас паасобку, гэтак-жа як ён зрабіў, вітаючы нас у канцылярыі, таксама да дзьвярэй. У кажнага з нас ён нешта папытаўся пра нас ды кажнаму перадаў сымбалічны падарунак.

Усе мы выйшлі з прыватнае аўдыенцыі з Папам Янам Паўлам Другім радасныя, із задаволенасьцяй у сэрцы. Мы адчуваліся вельмі ўзьнятымі й падбадзёранымі перад цяжкімі заданьнямі, што ляжаць наперадзе. Цяпліня й ласкавасьць, зь якой Сьв. Айцец прыняў нас, была надзвычайная!

Мы молімося й просім усіх вас маліцца, каб Сьв. Айцец хутка здолеў памагчы нам ужыцьцявіць усе нашыя жаданьні духовага дабра для нашых пакутных людзей на Беларусі.

**Архімандрыт Уладзімер Тарасэвіч**

## ЗВАРОТ—ПРОСЬБА

Зварочваюся да ўсіх Беларусаў, якія жывуць у сэктары гораду Нью Ёрк недалёка ад Кэнэды Айрпорт і недалёка ад Вашынгтон Брыдж Бас Стэйшэн або Порт Аўторыты Бас Стэйшэн.

Прашу згаданых Беларусаў, каб яны згадзіліся спаткаць на Кэнэды Айрпорт, прывезьці на сваё памешканьне й даць сяброўскі прытулак дзьвюм маім сёстрам, пакуль я прыеду з гораду Ляконія, Нью Гэмпшыр, і забяру іх у свой собскі прыгожы сяміпакаёвы дом. Мае сёстры прыедуць да мяне на 30 дзён у госьці із Заходняй Беларусі Баранавіцкага раёну. Было-б мне вельмі прыемна, каб першае спатканьне і першы прытулак на амэрыканскай зямлі далі ім Беларусы ў ветлівай беларускай сям'і. Дата прыезду пакуль што невядомая.

Я ўжо меў аднаго гасьця з Баранавіч і з практыкі пераканаўся, што ня маючы сяброўскай дапамогі былі вялікія цяжкасьці ў няпрыхільным Нью Ёрку. Галоўнай цяжкасьцяй тое, што тэлеграма з Масквы часамі прыходзіць два дні пазьней, а ёсьць выпадкі, што ніколі ня прыходзіць. Я жыву каля 300 міляў ад Нью Ёрку.

Я спадзяюся, што адклікнуцца на мой заклік Беларусы, зь якімі я 5 гадоў разам жыў у ўкраінскім ДП-лягеры Зомэр-Казэрнэ ў Аўгзбургу ў Нямеччыне.

Калі знойдуцца ахвотныя мне памагчы Беларусы, прашу пісаць да мяне на наступны адрыс:

Mr. Uladzimier Lukaszewicz
5 McGrath Street
Laconia, N. H. 03246

# ТВОРЫ БЕЛАРУСКАЕ МАСТАЦКАЕ ПРОЗЫ

## ЎЗНАГАРОДЖАНЫЯ ДЗЯРЖАЎНЫМІ ПРЭМІЯМІ БССР 1978 ГОДУ

(Заканчэньне з 3-яй бачыны)

нашую думку, не назваў ён Васіля Быкава таму толькі, што гэтым і ад імя арміі пацьвердзіў-бы афіцыйна, што, узнагароджваючы Дзяржаўнай прэміяй БССР творы Васіля Быкава, партыя скапітулявала перад Васілём Быкавам, а не наадварот. Дык і гэта пацьверджае нашую тэзу, што Васіль Быкаў застаўся й сяньня самым сабой. Застаўся гэткім, якім быў заўсёды.

**
*

Пісьменьнік Іван Пташнікаў, каб атрымаць Дзяржаўную прэмію БССР за сваю аповесьць таксама на ваенную тэму „Найдорф", быў зьмушаны дорага за гэта заплаціць коштам свайго таленту й мастакоўскага сумленьня. Ягоны выпадак сваясаблівы й вельмі характэрны для партыйнай палітыкі ў дачыненьні да беларускай літаратуры.

Аповесьць Івана Пташнікава „Найдорф", што зьявілася ў 1975 годзе пасьля ягонай аповесьці 1968 году „Тартак", ужо другая на тэму партызанскай вайны на Беларусі. Але сваім ідэйным асэнсаваньнем гэтае вайны аповесьць „Найдорф" прынцыпова розьніцца ад аповесьці „Тартак". Характэрным для аповесьці „Тартак" быў аб'ектыўны й рэалістычны паказ жахлівае трагэдыі беларускага народу й нявымоўнага ягонага пакутніцтва, спрычыненых партызанскай вайной на Беларусі. У ваповесьці гэтай ня было й заваду строга патрабаванага сяньня выяўленьня гэраізму й актыўнага ўдзелу ў змаганьні гэтым беларускага народу. Жыхары беларускай вёскі Дальва, спаленае эсэсаўцамі, паказаныя ў ваповесьці зусім пасыўнымі ахвярамі, адно аб'ектам, а ня суб'ектам гэтага змаганьня. Кажны із сялянскіх пэрсанажаў аповесьці „Тартак" жыве адным-адзіным жаданьнем: як-небудзь перачакаць ваеннае ліхалецьце й застацца жывым ды выратаваць сваю сям'ю.

Зусім інакш апрацаваная тэма партызанскай вайны ў ваповесьці „Найдорф". Ідучы напярэймы партыйным патрабаваньням, аўтар спрабаваў у гэтай аповесьці паказаць гэны народны гэраізм, але, на жаль, паказ гэны ані ня пераконлівы й з мастацкага гледзішча няўдалы.

Вялікія злучэньні эсэсаўскіх войскаў зь мінамётамі й самалётамі акружылі партызанскую брыгаду ймя Кутузава. Брыгада была зьмушаная як найхутчэй прарвацца з блякады, а дзеля гэтага яна пакінула заслон, заданьнем якога было трымаць ворага да ночы, а раніцай адступіць з боем і далучыцца да брыгады. У заслоне было ўсяго пяцёх чалавек. Пад агнём вялікіх сілаў ворага ўсе яны гінуць, апрача мясцовых сялянаў Жаваранкі й Алёшы. Із собскае ініцыятывы яны завязваюць няроўныя баі зь вялізарнымі сіламі эсэсаўцаў, робяць проста няверагодныя гэройскія вычыны й прыносяць балючыя страты ворагу.

Усе гэтыя супэргэраічныя вычыны Жаваранкі й Алёшы ўспрыймаюцца, як няверагодныя, псыхалягічна неўматываваныя й няпераконлівыя. Вось у якасьці прыкладу адзін з гэтых вычынаў. Кантужаны ад выбуху міны Жаваранка й чуць жывы ад перамучаньня й бяссоньніцы Алёша, прабіраючыся праз кусты, раптам заўважылі на шашы калёну грузавых машынаў з эсэсаўскімі карнікамі. Заміж перачакаць незаўважанымі ў кустох, пакуль пройдзе калёна, яны, узброеныя толькі аўтаматамі й маючы недастатковую колькасьць патронаў супраць кулямётаў і мінамётаў калёны, лёгка забіваюць вялікую іхную колькасьць, а самі шчасьліва ўцякаюць. Гэткіх пасьпяховых, але зусім няверагодных атакаў супраць моцна ўзброеных сілаў ворага ў ваповесьці шмат.

Пасьля пяцёх дзён мясцовасьць займаюць першыя танкі Чарняхоўскага. Партызанскае камандваньне адпускае іх на два дні да іхных сем'яў у вёску. У разбуранай вёсцы, куды вярнуліся зь лесу ейныя жыхары, пануе голад. Заміж таго, каб ратаваць жонку й дзяцей, Жаваранка, ранены ў руку, нат не падумаў дастаць згоду партызанскага камандваньня застацца дома. Ён пераканаы, што яго прыдзеляць да рэгулярнай арміі, і ён ахвотна пойдзе дабіваць ворага. Алёшу, як непаўналетняга, праўдападобна адпусьцяць дамоў. Але ён наважаны ўжыць розных захадаў, каб і яго прынялі ў рэгулярную армію.

Але вось на другі й апошні дзень свайго побыту дома, Алёша заўважае на полі сямёх нямецкіх жаўнераў, што, кінуўшы зброю, прабіваліся на захад. Заміж таго, каб не зьвяртаць на іх увагі, Алёша із сваім аўтаматам пераймае іх і, разам з Жаваранкам, вядзе іх пад канвоем у Найдорф, каб здаць іх у штаб савецкай арміі. Але перад самым Найдарфам высыпала з жыта вялікая група ўзброеных эсэсаўцаў. Завязаўся бой, у якім гіне Алёша, а Жаваранку, цяжка раненага, падабралі савецкія танкі. Гэтак трагічна заканчваецца аповесьць.

Аўтараў намер быць у згодзе з партыйнымі дырэктывамі для літаратуры пра вайну ня толькі ня ўдаўся, але выйшаў нагэтулькі ненатуральным, што мяжуе з карыкатурай, пры гэтым з мастацкага боку няўдалай і прымітыўнай.

З паводзінаў Алёшы й Жаваранка выцякае высноўа, што Іван Пташнікаў вельмі-ж дорага заплаціў за тое, каб атрымаць Дзяржаўную прэмію. Адсюль навука, што Васіль Быкаў, а ня Іван Пташнікаў, дзеля атрыманьня Дзяржаўнай прэміі БССР аказаўся на ўзроўні, годным для беларускага пісьменьніка.

**Ст. Станкевіч**

---

СЬВЯТОЙ ПАМЯЦІ

**МІКОЛА ГАРОШКА**

інжынер, грамадзкі й царкоўны дзеяч, сябра Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, народжаны 4 травеня 1902 г. у вёсцы Трашчычы на Навагрудчыне, памёр неспадзявана 11 лютага 1979 г., пра што з глыбокім жалем паведамляе й сям'і Нябожчыка шчырыя спачуваньні выказвае

**УПРАВА**
Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва

---

Заміж кветак на магілу

**СЬВЯТОЙ ПАМ. МІКАЛАЯ СТЭЛЬМАШЫКА**

перасылаю $20.00 на Выдавецкі Фонд „Беларуса".

Аркадзь Жылік

---

# БРАШУРКІ ПРА БССР

Наведвальнікам місіі Беларускае ССР пры Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў у Нью Ёрку, каб паінфармаваць іх пра Беларусь, даюць адну або колькі ангельскіх брашурак кішэннага фармату, прысьвечаных розным тэмам: культуры, літаратуры, мастацтву, спорту, ахове здароўя, эканоміцы й гэтак далей. Гэткія-ж брашуркі раздаюцца, праўдападобна, і ў Менску замежным турыстым. Калі з трохтысячнага тыражу кажнае брашуркі застанецца што-небудзь да 1980 году, дык іх будуць пашыраць хіба й сярод замежных наведвальнікаў алімпійскіх гульняў у сталіцы Беларусі.

Кажная з брашурак мае 32 бачынкі, каляровую вокладку й чорна-белыя фатаграфіі ўсярэдзіне. Фатаграфіі ў брашурцы „Культура, літаратура, мастацтва" адразу-ж выяўляюць рэдактарскі недагляд: пад імі няма ніякіх подпісаў, ніякіх паясьняльных тэкстаў. Цэлую бачынку, прыкладам, займае фатаграфія нейкае пары зь нейкага танцавальнага конкурсу, відаць, бо на чорным касьцюме танцора сьвеціцца вялікае белае „31". На іншай фатаграфіі, ізноў-жа на цэлую бачынку, паказаная пара зь нейкага балету, выконванага на нейкай прымітыўнай сцэне, зьбітай, як выглядае, із звычайных дошчак. Бяз подпісаў, ананімныя здымкі гэтыя выконваюць зусім іншую псыхалягічную функцыю: чытачу брашуркі яны не даюць канкрэтнае інфармацыі, а як быццам-бы цьвердзяць: бачыце, Беларусы таксама балет маюць, таксама танцуюць, таксама кніжкі чытаюць.

Чалавек, абазнаны зь Беларусяй, яшчэ можа здагадацца сёе-тое, гледзячы на гэтыя здымкі, дый то ня ўсё. Замежнаму-ж чытачу трэба было паясьніць, што тут да чаго: інфармацыя была-б куды паўнейшая.

Што-ж расказалі свайму замежнаму чытачу аўтары тэксту брашуркі Вольга Нячай і Марына Барсток пра культуру, літаратуру й мастацтва Беларусі? Нажаль, няшмат. Пакуль яны пералічвалі ўсіх заслужаных пісьменьнікаў, кампазытараў ды кінаматаграфістых, пакуль паназывалі іхныя галоўныя творы, дык і друкплошчы на іншае ня шмат засталося. А яшчэ-ж трэба было сказаць і пра „камуністычнае будаўніцтва", пра сацыялістычны рэалізм, пра патрыятызм, пра клясавых ворагаў, дружбу народаў, ленінскую нацыянальную палітыку, вайну, партызанаў.

Брашурка чытаецца затым як анатаваны сьпіс прозьвішчаў і пералік назоваў зь лякалічнымі стандартнымі характарыстыкамі, прыкладам: „Сучасная беларуская літаратура — гэта сьвет гэрояў, ідэяў, вобразаў. Гэта жывы працэс, цесна зьвязаны з надзённымі праблемамі сяньняшняга дня". Або: „У разьвіцьці прафэсійнае культуры значная ўвага надаецца духовай спадчыне папярэдніх пакаленьняў, выражанай у розных формах фальклёру".

А пра „духовую спадчыну папярэдніх пакаленьняў" у брашуры — ні слоўка: ні пра пару Полацкага княства, ні пра Вялікае Княства Літоўскае зь ягонай беларускай мовай як дзяржаўнай, ні пра XIX стагодзьдзе. Брашурка пацьвярджае яшчэ раз выразную тэндэнцыю ўсіх савецкіх англамоўных публікацыяў пра Беларусь — паказваць беларускую культуру дасавецкае пары як чыста сялянска-фальклёрную, што толькі за Саветамі, быццам-бы, набыла прафэсійнага характару. Падтрыманьню гэткага хвальшывага пагляду на культуру Беларусі дасавецкае пары служыць у брашуры гэткі, прыкладам, сказ: „Дзяржаўны мастацкі музэй БССР паказвае калярыстыя абразы, графічнае мастацтва ды скульптуру выдатных **расейскіх** мастакоў XIX-XX-га стагодзьдзяў і лепшыя творы **сучасных беларускіх** мастакоў". Усяроўна, як у XIX стагодзьдзі беларускіх мастакоў ня было. Цікава, ці знаёмыя Нячай і Барсток з працаю Леаніда Дробава „Живопись Белоруссии XIX-начала XX в." (Менск, 1974) пра беларускіх жывапісцаў XIX стагодзьдзя, якія, хіба-ж, таксама прадстаўленыя ў Дзяржаўным мастацкім музэі рэспублікі?

Сухі й казённы стыль брашуркі ад перакладу ў ангельскую мову, у некаторых выпадках нязграбнага й бязраднага, стаўся зусім дубовым. Эфэкт ад усяго будзе барджэй адваротны ад жаданага: брашурка ня ўзбудзіць зацікаўленасьці замежнага чытача да культуры савецкае Беларусі, а барджэй заб'е й той зародак, што мог у яго быць. Пісаць для замежнага чытача трэба зусім іншым стылем, як для партыйнага сходу або савецкае газэты. І перакладаць трэба лепш.

Пераклад тэксту зроблены ня зь беларускае, а з расейскае мовы (зь якое, як правіла, перакладаюцца ў іншыя мовы ўсе працы пра Беларусь) з русыфікацыйным калечаньнем беларускіх прозьвішчаў і назоваў: „Молодняк", „Павлінка", „Головач", „Бородулін", „Гаврусев" і гэтак далей.

Другая брашурка мае загаловак „Нашэнал эд'юкэйшэн" — даслоўна, „Нацыянальная асьвета" — гэтак перададзены паангельску ейны расейскі загаловак „Народное образование". Дакладны пераклад гэтага выразу быў-бы „Піплз эд'юкэйшэн", гэтак, як выраз „народная дэмакратыя" паангельску перакладаецца „піплз дэмокрасы", „народная рэспубліка" — „піплз рэпаблык". Слова „народная" рэдчас, праўда, перакладаецца і як „нашэнал". Але тут „нашэнал", а ня „піплз", было ўжытае, бадай, сьведама. Пра нацыянальную асьвету ў Савецкім Саюзе, як частку нацыянальнага пытаньня, на Захадзе пішацца даволі шмат, і часта крытычна ў сувязі з палітыкай русыфікацыі, што асабліва відавочная й напорная якраз у галіне народнае асьветы. Дык ужо сам загаловак брашуркі „Нацыянальная асьвета" прызначаны выконваць функцыю запэўняньня, што нацыянальная асьвета ў савецкай Беларусі, бачыце вы, забясьпечаная, — пытаньне гэта адкрытае, ніякіх сакрэтаў і патаёмных мэтаў у сабе, бач, не хавае. Хоць, прачытаўшы ўсю гэтую брашурку ад дошкі да дошкі, гэтак зьяе і не даведаешся, як-жа выглядае ў Беларускай ССР справа з нацыянальнымі школамі, нацыянальнай асьветай.

Хоць тэкст ля аднаго з фатаздымакаў кажа, што „рэспубліка мае каля 8000 школаў", усе фатаграфіі ў ёй, як выглядае, параблёныя ў Менску, за вынятакам піянэрскага лягеру „Зубрёнок" над возерам Нарач. Транскрыпцыя назову гэтага лягеру, як і само слова „зубрёнок" — з расейскае, а ня зь беларускае мовы. Гэта адзін з маленькіх паказальнікаў запраўднага стану з гэтак званай „нацыянальнай" асьветай у БССР, дзе дзіцячыя лягеры, як і шмат чаго іншага, ня могуць называцца моваю народу, што становіць у рэспубліцы 80 працэнтаў жыхарства.

Разам з тым брашурка дае пэўнае ўяўленьне пра поступ асьветы на Беларусі, пачаўшы ад 1897 году, калі, як сказана, больш за палавіну жыхароў Менску былі няпісьменныя, а людзей з вышэйшай асьветай сярод іх было адно паўпрацэнту. Сяньня-ж, кажацца ў брашурцы, тры чвэрці гараджанаў ды больш за палавіну жыхароў селавое мясцовасьці маюць сярэднюю або вышэйшую асьвету. Кажны трэйці жыхар рэспублікі ахоплены тэй ці іншай формаю асьветы. Гэта, паясьняе брашурка, заўдзячваецца выдатным перамогам сацыялізму ў Савецкім Саюзе, у кажнай рэспубліцы яго.

Падаюцца ў брашурцы й асноўныя статыстычныя дадзеныя: колькасьць у БССР пачаткавых і сярэдніх школаў, вышэйшых навучальных установаў, школьнікаў, студэнтаў, настаўнікаў, бібліятэкаў. Але нічога не сказана, прыкладам, пра вышыню бюджэтных асыгнаваньняў на асьвету. Ня робіцца таксама й прыраўнаньняў стану асьветы ў Беларускай ССР да іншых суседніх рэспублікаў, ані да сярэдняга стану па цэлым Савецкім Саюзе. Прыраўнаньні гэткія былі-б не на карысьць БССР.

У брашурцы на 8-ай бачынцы, між іншага, сказана, што „ўсе маюць права навучацца ў роднай мове". Нідзе аднак ні словам ня згадваецца, які-ж працэнт жыхарства Беларусі карыстаецца гэтым правам, колькі школаў у рэспубліцы зь беларускай мовай навучаньня, а колькі з расейскай. У брашурцы, што мае загаловак „БССР. Нацыянальная асьвета" пытаньне гэтае наагул прамоўчанае, каб не закранаць нявыгоднага для савецкае прапаганды пытаньня русыфікацыі школьніцтва на Беларусі.

У брашурцы, між іншага, з гонарам адзначаецца, што ў Менску вучацца студэнты з больш як 60 краінаў. Але дарма не падаецца ліку студэнтаў зь Беларусі, якія вучацца за межамі Савецкага Саюзу. Калі гэткія наагул ёсьць, дык іх, бадай, вельмі няшмат.

Нельга таксама не адзначыць тут, як і ў папярэдняй брашурцы, вельмі нізкое якасьці перакладу з выпадкамі выкрыўленьня, часамі да камічнасьці, таго, што хацелі сказаць аўтары расейскага тэксту Найдзёнава й Дарафеенка. Вось два прыклады. У расейскім арыгінале было напісана, прыблізна, гэтак: **„Паралельна з навучаньнем** яны (гэта значыцца, выкладчыкі ВНУ — В. З.) шмат займаюцца досьледамі, памагаючы студэнтам яшчэ ў школе спасьцігнуць глыбіні навукі". А ў перакладзе выйшла: **„Паралельна з даваньнем прыватных лекцыяў** яны шмат займаюцца досьледамі ..." Перакладчык заміж дзеяслова „тычынг" або „інстрактынг" ужыў слова „т'ютарынг", першае значаньне якога — даваць прыватныя лекцыі, падвучваць. Другі прыклад. У брашурцы чытаем: „Сяньня на Беларусі 31 вышэйшая навучальная ўстанова мае 160.000 студэнтаў, якія рыхтуюцца для **200 работаў". А трэ было сказаць „рыхтуюцца для 200 прафэсіяў".**

У вабедзьвух брашурках цімала таксама выпадкаў недапушчальнага для ангельскае мовы спосабу пераносу словаў, і гэта толькі ўзмацняе ў чытача ўражаньне некваліфікаванасьці й нядбайнасьці.

Дыпляматы БССР ведаюць, што ў людзі трэба хадзіць акуратна апранутым. Але рэспубліку сваю яны вывелі ў сьвет у беднай і нячыстай вопратцы.

**Вітаўт Зубкоўскі**

---

# БАЛЬ ЭТНІЧНАЙ СПАДЧЫННАСЬЦІ

У сыботу 24 лютага сёлета адбыўся ў горадзе Эдысон, Нью Джэрзі, чацьверты чародны Баль Этнічнай Спадчыннасьці. Гэтыя балі ладзяцца этнічнымі групамі, што праводзяць свае фэстывалі ў Культурна-Мастацкім Цэнтры штату Нью Джэрзі. На сёлетнім балі былі прадстаўленыя 22 нацыянальныя групы. Мэты балю шматбаковыя: перадусім даць нагоду людзям рознага нацыянальнага паходжаньня спаткацца, навязаць бліжэйшыя ўзаемадачыненьні й супрацоўніцтва, спаткацца з прадстаўнікамі штатавых і мясцовых уладаў ды, бязумоўна, правесьці весела й прыемна час. Даход з балю прызначаецца на карысьць Фонду Культурна-Мастацкага Цэнтру, які дае бясплатна мастацкія паказы для школьнікаў, пэньсіянераў, інвалідаў-вэтэранаў і сьляпых. Падчас баляў даюцца выступленьні з народнымі песьнямі й танцамі ды дэманструюцца народныя ўборы. Пасярэдня балі такія служаць рэклямай для нацыянальных фэстываляў у Нью Джэрзі.

Больш як трыста асобаў прысутнічала на сёлетнім балі. З гасьцей былі на балі й прамаўлялі старшыня Камісіі Дарогаў Вільям Сьміт, старшыня Фонду Культурна-Мастацкага Цэнтру Фрэд Уэк, Бурмістр гораду Эдысон. Старшыня Этнічнай Рады пры Губэрнатары Д-р В. Кіпель у сваім прывітаньні зазначыў,, што штат Нью Джэрзі быў першым, які запачаткаваў Этнічныя Фэстывалі, і першым, які заснаваў Этнічную Раду пры Губэрнатары. Ён таксама заўважыў, што ўжо трэйці раз Беларускі Фэстываль будзе адкрываць фэстывальны сэзон у Нью Джэрзі.

Сярод прысутных былі іншыя прадстаўнікі штатавых установаў, мастацкага сьвету й прэсы. Мы спаткалі тут нашага добрага знаёмага Д-ра Д. Шварца — вялікага прыхільніка пабудовы Цэнтру Этнічнай Спадчыннасьці ў Нью Брансьвіку. Беларуская група на сёлетнім балі была шматлікая. Сярод гасьцей былі А. Шукелайць — старшыня Галоўнай Управы БАЗА, прадстаўнікі іншых беларускіх арганізацыяў і сябры Фэстывальнага Камітэту.

Падчас балю дэманстраваліся беларускія народныя касьцюмы: сп-чняй Раісай Станкевіч — касьцюм Горадзеншчыны, сп-вам С. і В. Рагалевіч — касьцюмы Палесься. Паясьненьні аб касьцюмах давала сп-ня Г. Русак.

Добрую беларускую рэпрэзэнтацыю на балі трэба заўдзячваць сп-ні Ірэне Рагалевіч — каардынатарцы балю ад Беларусаў. Перад балем і пасьля балю шмат пісалася ў прэсе на тэму ўкладу этнічных групаў у жыцьцё штату Нью Джэрзі.

**Р. Б.**

---

# ПАПРАЎКА

Аўтарка справаздачы з 3-яй Сустрэчы Беларусаў Аўстраліі ў Адэляйдзе просіць зьмясьціць наступную папраўку: У справаздачы сказана: „выступала на сьвяткаваньні незалежнасьці Украіны з прывітаньнем сп-ні А. Папярэчнай", а павінна быць: „Сп-ня А. Папярэчная".

# УРАЖАНЬНІ З ПАДАРОЖЖА Ў АЎСТРАЛІЮ

Пару гадоў ужо насілася я з думкай адведаць Аўстралію, калі амэрыканскія Беларусы пачалі пакрысе заглядаць у гэты найбольш аддалены пяты кантынэнт сьвету. Ды прыйшоў час і для мяне, калі я выбралася паляцець на 3-юю Сустрэчу Беларусаў Аўстраліі, што адбывалася ў Адэляйдзе.

Але пры нагодзе вярнуся памяцяй назад, калі нашыя суседзі Беларусы з ДП-Лягеру ў Розэнгайме (Заходняя Нямеччына) выяжджалі на сталае жыцьцё ў Аўстралію. Выяжджала з бацькамі й мая найлепшая сяброўка маленькая Аля Яцкевіч. Я таксама была тады малая, але памятаю, як быццам гэта здарылася сяньня, як я горка плакала, бо думала, што ніколі больш сваёй сяброўкі не пабачу. Гэтак далёкай уяўлялася тады мне Аўстралія, нейдзе на самым канцы сьвету.

Ды часы зьмяняліся, мадэрная тэхніка зблізіла кантынэнты. Маё падарожжа ў Аўстралію мела перапынкі. Спачатку на Гаваях, дзе я мела нагоду падзіўляць іншую й такую прыгожую прыроду. Недарма-ж называюць Гаваі раем на зямлі. Першым аўстралійскім горадам, куды я прыляцела, быў Мэльбурн. На лётнішчы мяне спаткалі сп-ня Эўлялія Яцкевіч і ейная дачка Аля із сваймі дзеткамі. Мне ўзноў прыпомнілася, як я сумавала пры іхным ад'езьдзе зь Нямеччыны.

На Сустрэчу Беларусаў Аўстраліі з Мэльбурну ў Адэляйду мы ехалі машынай із сп-вам Аўгенам і Надзяй Грушамі. Ехалі доўга, мясцовасьць слаба заселеная, а расьліннасьць спаленая сонцам. Мы, гэта значыць, сп-ня Ванда Махнач з Чыкага, сп-ня Яцкевіч з Мэльбурну й я затрымаліся ў сп-ва Станкевічаў. Прынялі яны нас у сваю хату, як родных.

Толькі чатыры дні трывала Сустрэча Беларусаў Аўстраліі, а імпрэзаў і ўражаньняў было шмат. Першае нашае спатканьне зь Беларусамі Адэляйды й прыбылымі на Сустрэчу зь іншых аўстралійскіх гарадоў за супольнымі сталамі адбылося падчас традыцыйна ладжанай у Адэляйдзе супольнай калядняй Куцьці. Заля была перапоўненая: цэлымі сем'ямі, старэйшымі, малодшымі й найбольш дзецьмі. Посная вячэра ўрачыста пачалася малітвай і пасьвячэньнем куцьці настаяцелем мясцовай парахвіі а. Аўгенам. У часе ежы прыгожа прамовіў старшыня Царкоўнае Рады Кастусь Станкевіч, успамінаючы на Куцьцю тых, што адыйшлі ў вечнасьць, і тых, што раськіданыя па цэлым сьвеце, і тых, што церпяць у паняволенай Бацькаўшчыне.

А дзецям ужо ад пачатку не цярпелася, так моцна хацелася ім хутчэй пабачыць Дзеда Мароза. І дачакаліся, а ягоны мяшок з падаркамі ўзапраўды быў вялікі. Але на падаркі трэба было заслужыць, дык дзеці або пялі калядкі, або дэклямавалі вершы. Пазьней пялі калядкі ўсе разам — дарослыя й дзеці.

Назаўтрае быў першы дзень Калядаў, калі адэляйдцы й прыежджыя зьбраліся ў царкве. Падчас Божае Службы, якую адслужыў а. Аўген, прыгожа пяяў царкоўны хор пад кіраўніцтвам сп. Міхася Бурноса.

Таго-ж самага дня ў праграме Сустрэчы меў месца вялікі канцэрт, які трываў каля трох гадзінаў. Канцэрт вёў сп. Міхась Лужынскі із Сыднэю. Праграма была багатая: дэклямацыі, мяшаны хор, дуэты, салёвыя выступленьні, музычныя нумары й народныя танцы. Канцэрт пачаўся беларускім нацыянальным гімнам і адмысловым вершам, прысьвечаным 3-яй Сустрэчы Беларусаў Аўстраліі. Аўтар вершу — сп. Янка Рольсан. Прадэклямавала яго сп-ня Вольга Бурнос.

Асабліва прыемна было бачыць маладых танцораў і танцорак, якія выканалі „Лявоніху" аж два разы, выкліканыя на біс. А вось імёны й прозьвішчы ўдзельнікаў танцавальнае групы: Натальля Якша, Ніна Якша, Соня Якша, Ганна Калесьніковіч, Антон Яновіч, Косьцік Бічанін, Паўлік Калесьніковіч, Андрэй Бічанін, Юльян Кандрусік і ягоная маленькая сястрычка Ларыса, якая ў сваёй вышыванай беларускім узорам сукеначцы, хоць і ня выступала на сцэне, але зачаравала ўсіх прысутных.

Вельмі прыемна праводзілі ўсе час і на маёўцы ў Адэляйдзе, дзе была нагода шмат зь кім пазнаёміцца, наслухацца й насьпявацца беларускіх песень. Часам я спатыкала тых, якіх ведала раней, але часьцей, што мяне памяталі малой, калі жылі ў тым самым лягеры ў Нямеччыне. Некаторыя паказвалі мне фатаграфіі зь лягеру ў Остэргофэне, дзе й я была ў групе дзяцей. Дружна, шануючы адзін аднаго, жывуць Беларусы ў Адэляйдзе. Усе яны згуртаваныя вакол свае Беларускае Аўтакефальнае Царквы й жывуць у добрай згодзе зь славянскімі народамі — Югаслаўцамі, Украінцамі й іншымі.

Сумна было разьвітвацца з адэляйдцамі на адмысловай разьвітальнай імпрэзе, зладжанай для гасьцей Аўстралійцаў і нас дзьвюх з Амэрыкі. Сп-ня Ванда Махнач трапна выказалася, што Беларусы, дзе-б яны ня жылі: ці ў Кліўленьдзе, Чыкага, Адэляйдзе ці ў Нью Джэрзі, такія самыя—гасьцінныя й добрыя й калі даводзіцца прыехаць у які-небудзь беларускі асяродак, дык адчуваецца, як быццам прыехалі да сваіх родных. Я таксама гэта адчувала ў Адэляйдзе. І хоць я Беларусі ня памятаю, але людзей нашых Беларусаў тут добра ведаю й ганаруся імі, што перанесьлі добрыя прыкметы нашае нацыі сюды на выгнаньне й у гэтай традыцыі ўзгадоўваюць сваіх дзяцей.

На гэтай-жа разьвітальнай бяседзе мы з Амэрыкі атрымалі аўстралійскага ковала-мядзьведзіка на памятку нашага побыту ў Адэляйдзе, якога я, вярнуўшыся дамоў, паставіла на ганаровым месцы ў маім пакоі. Пагляджу на яго й успомню ўсіх маіх знаёмых з далёкай Аўстраліі. А побач зь ім, каб той мядзьведзік ня сумаваў зашмат за сваёй бацькаўшчынай, паставіла я маленькага другога мядзьведзіка, якога мне на разьвітаньне падаравала сп-ня Вера Бічанін.

Вярнуўшыся ўзноў у Мэльбурн, мела час наведаць тамашніх Беларусаў, як сп. Міколу Скабея, сп-ва Ніканаў, Шайпакоў, Грушаў, Папярэчных ды іншых суродзічаў. У Мэльбурне мела нагоду пабыць на Багаслужбе ў Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве, якую адслужыў а. Аляксандар Кулакоўскі. Мела нагоду бліжэй пазнаёміцца з а. Аляксандрам і Матушкай пры іншай сустрэчы. Давялося пакідаць і Мэльбурн.

Каб добра нагледзіцца на аўстралійскія краявіды, адправілася я ў Сыднэй цягніком. Ізноў давялося знаёміцца з новымі людзьмі. І гэтым разам спаткалася я з прадстаўнікамі моладзі, бальшыня якой ужо закончыла вышэйшыя аўстралійскія школы. У Сыднэі надарылася нагода выступіць зь інфармацыяй пра беларускае грамадзкае жыцьцё ў Нью Ёрку ў праграме этнічнага беларускага радыя. Затрымалася я ў гасьціннай хаце сп-ні Аўгені Каранеўскай і наведала ўзноў шэраг беларускіх сем'яў: сп-ва Качаноў, Нарушэвічаў, Лужынскіх, Гавенчыкаў і Антухоў. На больш не хапіла ўжо часу, чаго моцна шкадую, бо шчыра запрашалі й іншыя.

Вельмі хутка праляцелі мае тры тыдні ў Аўстраліі. Вярталася я на амэрыканскі кантынэнт і затрымалася ў знаёмых у Лёс Анджэлесе. І прыпаміналіся мне ўсе тыя добрыя пажаданьні шчасьлівага павароту дамоў, калі я сядзела ўжо ў самалёце зь Лёс Анджэлес — Нью Ёрк, які (і трэба-ж было!) быў захоплены (гайджэк) і ў дадатку жанчынай (хіба ўпяршыню здарыўся падобны выпадак!).

Прызямліліся на лётнішчы ў Нью Ёрку бяз турботаў і доўга ня ведалі, што самалёт выконваў усё, што загадвала гэная несамавітая жанчына. Потым, як прастаялі пару гадзінаў на лётнішчы, паступова нараджалася падазрэньне, за якім наступіла й выяўленьне праўды. Прасядзілі мы ў самалёце амаль цэлую ноч, але ў добрым таварыстве галівудзкіх артыстых. Бязумоўна, мы хваляваліся, як і тыя, што мяне спатыкалі. Але, відаць, добрыя пажаданьні беларускіх Аўстралійцаў перамаглі й усё закончылася памысна: тая жанчына, як патрапілі неяк даведацца спэцыялістыя ў гэткіх справах, ня мела нітраглізэрыну, як яна пагражала.

Прывяду пару словаў маёй спадарожніцы сп-ні Ванды Махнач, якія яна напісала ў лісьце да рэдактара „Беларуса": „Калі-б у Вас знайшлося месца ў газэце, успомніце, што мы шчасьліва вярнуліся з Аўстраліі, ачараваныя краінай і Беларусамі ды арганізацыяй у Адэляйдзе і ўдзячныя ўсім ім за шчырую гасьціннасьць!"

**Раіса Станкевіч**



**Афіцыйнае адчыненьне Сустрэчы**
**Зьлева направа: Міхась Бурнос, а. Аўген, Янка Ролсан, Кастусь Станкевіч**



**Частка залі ў часе праваслаўнай Куцьці**



**Наймалодшыя ўдзельнікі Канцэрту ў часе Сустрэчы ў Адэляйдзе**



**Госьці з Амэрыкі Раіса Станкевіч і Ванда Махнач з групай мэльбурнскіх удзельнікаў Сустрэчы, што вяртаецца з Адэляйды**

## ДЗЕНЬ ПАЭЗІІ АЛЕСЯ САЛАЎЯ (АЛЬФРЭДА РАДЗЮКА-КАДНЯКА)

У сыботу 20 студзеня сёлета адбыўся Дзень Паэзіі сьв. пам. Алеся Салаўя, які быў наладжаны Беларускім Цэнтральным Камітэтам у Вікторыі, культурна-асьветным рэфэрэнтам якога быў доўгія гады Нябожчык. Урачыстасьць была папярэджаная Паніхідай і пасьвячэньнем помніка на беларускай дзялянцы магільніку Фокнэр у Мэльбурне. Паніхіду адправіў і пасьвяціў помнік а. А. Кулакоўскі, настаяцель тутэйшай парахвіі БАПЦ.

Дзень Паэзіі ў Беларускім Доме ў Мэльбурне адчыніў ды прывітаў прысутных сп. А. Калодка, ён-жа й даў кароткі агляд жыцьця й літаратурнай творчасьці паэты, асабліва падчыркнуўшы цяжкія матарыяльныя абставіны, у якіх знайшоўся Нябожчык пасьля арышту бацькоў у 1937 годзе й першыя літаратурныя крокі й росквіт ягонай літаратурнай дзейнасьці ў Аўстраліі ў 1945-1949 гадох. Успомніў таксама трагічную памылку, якую зрабіў Алесь Салавей, прыяжджаючы ў Аўстралію, дзе фізычная праца, адсутнасьць сяброў-паэтаў ды наагул удушлівая атмасфэра нашага грамадзкага жыцьця адбіліся фатальна на далейшай творчасьці й жыцьці паэты.

Сп-ня Ліля Яцкевіч прыгадала прысутным той энтузіязм, зь якім Алесь Салавей браў удзел у арганізацыі беларускай сыботняй школы ў першыя гады нашага эміграцыйнага жыцьця ды прачытала вершы Алеся Салаўя „Дзед Мароз" і „Малітва". Сп. М. Скабей прачытаў урыўкі з двух лістоў Алеся Салаўя з 1949-1950 гадоў, з часу, калі паэта пражываў у Паўдзённай Аўстраліі й калі рабілася, галоўна сп. М. Скабеем, спроба зарганізаваць беларускі культурны цэнтр у Мэльбурне. Паэта разумеў патрэбу такога цэнтру, але цяжкія жыцьцёвыя абставіны затрымалі яго на нейкі час у Паўдзённай Аўстраліі. Цэнтру зарганізаваць не ўдалося, а гэта з розных, ад нас мала залежных прычынаў.

У далейшым сп-ня Вера Шэйпак прачытала верш Нябожчыка „Сын", з касэты была праслуханая дэклямацыя твору „Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі", сп. А. Груша прадэклямаваў верш „Ты", сп-ня Зінаіда Кадняк, удава Нябожчыка, прачытала верш „Ліст да крытыка", а сп. М. Скабей прачытаў верш „Крыжовы шлях".

Сп-ня Надзя Груша вельмі ўдала прапяяла солё песьню „Сэрца Маці", якую з расейскай на беларускую мову пераклаў Алесь Салавей. На заканчэньне была праслуханая з касэты дэклямацыя самога паэты вершаў перакладзеных з ангельскай мовы на беларускую. Урачыстасьць зачыніла старшыня Беларускага Цэнтральнага Камітэту ў Вікторыі сп-ня Л. Яцкевіч.

Урачыстасьць вельмі ўдала вёў і даваў цікавыя камэнтары да вершаў Алеся Салаўя сп. М. Скабей. Пасьля закрыцьця адбыўся жалобны сяброўскі вечар і пачастунак.

**А. К-а**

## ПРЫВІТАНЬНЕ ТРЭЙЦЯЙ СУСТРЭЧЫ

Браты дарагія й родныя сёстры!
З Мэльбурну, Сыднэю ды іншых краёў,
З Адэляйды й Пэрту, ад шчырага сэрца
Вітаем усіх Вас зямлякоў.

За тысячу міляў прыехалі ўсе Вы
З марай і думкай у сэрцы сваім,
Што ты Беларус з пачуцьцём беларускім,
Што кроў Беларуса у целе тваім.

Рады Вас бачыць у Адэляйдзе
Зь вясёлай усьмешкай на твары тваім,
Хоць розныя думкай, а кроў нас яднае
На гэтай чужой аўстралійскай зямлі.

Першае й Другое наша спатканьне
Далі нам кірунак і натхненьні ўсе,
А Трэйцяе спатканьне ўсё падсумуе
Й сьцяг аб'яднаньня далей панясе.

Мачыха наша — чужая краіна
Нас прытуліла й сагрэла яна.
Браты дарагія, забудзем ўсё тое,
Што нам прышчапіла Другая вайна.

Дык зычым усім Вам, сябры й сяброўкі
Плённае працы ў нашай сям'і,
Каб Трэйцяе спатканьне зоркай зазьзяла,
Як Зорка Вэнэра ў нашым краі!

**Янка Ролсан**

**"БЕЛАРУС" — ЗАПРАЎДНЫ ГОЛАС ГРАМАДЗКАСЬЦІ. ДЫК І ГРАМАДЗКАСЬЦЬ ПАВІННА ДАЦЬ ЯМУ НАЛЕЖНАЕ ПАДТРЫМАНЬНЕ!**

# АЛЯКСАНДАР БАРШЧЭЎСКІ Ў АНГЕЛЬШЧЫНЕ

Напрыканцы студзеня й напачатку лютага сёлета наведаў Ангельшчыну Д-р Аляксандар Баршчэўскі з Польшчы. Займае ён цяпер там становішча загадчыка катэдры беларускай філялёгіі на Варшаўскім унівэрсытэце. У Ангельшчыну прыехаў на запросіны Рэдынгскага ўнівэрсытэту.

У нядзелю 4 лютага ў памешканьні Беларускай Бібліятэкі імя Францішка Скарыны ў Лёндане зьбралася ладная грамада Беларусаў зь Лёндану й аколіцаў, каб спаткацца й пазнаёміцца з паважаным гасьцём. І ўсе былі задаволеныя, бо д-р А. Баршчэўскі зрабіў вельмі цікавы й зьмястоўны даклад на тэму беларускага жыцьця ў сучаснай Польшчы, тымбольш, што ён аказаўся ў поўным сэньсе слова майстрам красамоўства.

Ягоны жыцьцёвы шлях прыблізна гэткі: Нарадзіўся ў 1930 годзе ў беларускай сялянскай сям'і ў малой вёсцы (20 двароў) Бандары над Нарвай недалёка ад Гайнаўкі. Бацька мяркаваў, што ён пярэйме гаспадарку й таму перад вайной і падчас вайны паважна асьветай не займаўся. Па вайне скончыў у Любліне падгатаваўчыя курсы дзеля паступленьня на ўнівэрсытэт, а ў 1955 годзе пасьпяхова закончыў студыі на факультэце расейскай філялёгіі на ўнівэрсытэце ў Лодзі. У 1957 годзе выехаў у Менск, дзе пасьпяхова закончыў курс беларускай філялёгіі. У 1966 годзе напісаў і абараніў доктарскую дысэртацыю пад назовам „Гісторыя Беларускае Літаратуры".

Д-р А. Баршчэўскі займаецца таксама паэтычнай дзейнасьцяй. Яшчэ ў 1946 годзе прабаваў пісаць вершы папольску на конкурс, але з таго нічога ня выйшла. Будучы ў Менску, ён першы раз напаткаўся з паэтычнай творчасьцяй Максіма Багдановіча, Уладзімера Дубоўкі й Язэпа Пушчы, якая зрабіла на яго вялікае ўражаньне, і ад таго часу пачаў пісаць вершы пабеларуску пад псэўдонімам Алесь Барскі. Друкавалася ягоная паэзія ў беластоцкай „Ніве" й у савецкіх беларускіх пэрыядычных выданьнях. У 1962 годзе выдаў ён у Беластоку свой першы зборнік вершаў „Белавескія Матывы", а ў 1967 — другі зборнік „Жнівень Слоў". У 1975 годзе выйшаў у Менску ягоны трэйці зборнік „Мой Бераг". Займаецца таксама перакладамі беларускай паэзіі на польскую мову. У 1974 годзе за пераклад вялікага тому беларускіх баек „Д'яблава скрыпка" ён атрымаў узнагароду ад Варшаўскага ўнівэрсытэту. Ад 1962 году Алесь Барскі належыць да Саюзу польскіх пісьменьнікаў (цяпер туды належаць чатырох беларускіх пісьменьнікаў: Алесь Барскі, Віктар Швэд, Сакрат Яновіч і Ян Чыквін). Таксама прыймае чынны ўдзел у беларускім школьніцтве і беларускім грамадзкім жыцьці наагул.

Вось кароткі зьмест ягонага дакладу: Арганізаванага беларускага жыцьця ў паваеннай Польшчы спачатку зусім ня было. Існаваў тады фікцыйны пагляд, што ўсе Беларусы з Польшчы выехалі ў БССР, а з БССР у Польшчу прыбылі толькі Палякі. Толькі ў 1956 годзе ўлады прызналі існаваньне Беларусаў за факт і тады Беларусы былі поўнасьцяй эманцыпаваныя. Цяжка сказаць дакладна, які лік Беларусаў у Польшчы. У Беласточчыне ёсьць каля чэцьверці мілёну. Вельмі мала ведама аб Беларусах, што па вайне рэпатрыяваліся з БССР, як Палякі, і пасяліліся на г. зв. „Землях адзысканых". Беларусы каталікі зь вельмі малымі вынняткамі Беларусамі не падаюцца.

Карыстаюцца Беларусы, як і ўсе грамадзяне сучаснай Польшчы, высокім жыцьцёвым узроўнем. Нажаль, паралельна з ростам дабрабыту сярод Беларусаў, стала расьце й іхны адыход зь вёскаў у гарады, дзе яны пераважна трацяць лучнасьць зь беларускім асяродзьдзем. Асьвета цяпер вельмі распаўсюджаная й на высокім узроўні. Прыкладам, у вёсцы Бандары за часоў санацыйнай Польшчы ня было ніводнага чалавека із сярэдняй асьветай, а цяпер ёсьць 20 чалавек з асьветай вышэйшай. Да вайны крэсіва й лучына былі ў штадзённым ужытку, а цяпер праведзеная поўная электрыфікацыя вёсак. Усе, якія прыяжджаюць із заграніцы, хутка пераконваюцца, што ў Польшчы цяпер існуе поўная свабода.

У 1956 годзе было заснаванае Беларускае Культурна-Асьветнае Таварыства. Створанае яно было людзьмі розных палітычных паглядаў — камуністымі, былымі грамадаўцамі, сябрамі Таварыства Беларускае Школы й іншымі, што прыймалі раней актыўны ўдзел у беларускім нацыянальным руху. У гэнымжа годзе пачала выходзіць і тыднёвая беларуская газэта „Ніва". Наладжаныя й вядуцца штодзённыя 15-ціхвілінныя радыёвыя перадачы ў беларускай мове. Паўстала тадыж і беларускае школьніцтва: каля 200 пачатковых школаў і два ліцэі ў Гайнаўцы й Бельску. На Варшаўскім Унівэрсытэце была заснаваная катэдра беларускай філялёгіі. Усе кошты, зьвязаныя зь дзейнасьцяй Беларускага Таварыства й беларускага школьніцтва, пакрываюцца дзяржавай.

Ад 1956 году лік школаў зьменшыўся да 100, і то яны перайшлі на польскую мову, захоўваючы беларускую мову толькі як прадмет. Сталася падобна й з абодвымі ліцэямі. У гайнаўскім ліцэі вучыцца каля 300 студэнтаў, а ў Бельскім каля 500. Ёсьць там часткава й студэнты польскае нацыянальнасьці: тыя, што жадаюць пазьней студыяваць беларускую філялёгію. На катэдры беларускай філялёгіі цяпер ёсьць 70 студэнтаў, зь якіх 56 Беларусаў і 14 Палякаў. Штагоду прыймаецца 10 новых студэнтаў. Бальшыня студэнтаў дзяўчаты. Абсальвэнты атрымліваюць працу ў школах, у газэце „Ніва" і ў беларускай сэкцыі радыя.

Д-р А. Баршчэўскі закончыў свой даклад адчытаньнем двух новых вершаў, якія яшчэ ня друкаваліся. У часе дыскусіі на пытаньне, як гэта сталася, што лік школаў зьменшыўся й тыя страцілі беларускі характар, дакладчык адказаў, што найбольшымі ворагамі Беларусаў ёсьць самі Беларусы. Калі ў санацыйнай Польшчы беларускія школы былі забароненыя, тады было масавае дамаганьне іх, а цяпер, калі яны поўнасьцяй дазволеныя, то людзі ад іх адмаўляюцца. Заўважваецца недаацэнка й недавер у свае сілы й магчымасьці.

Тлумачэньне гэтае выглядае вельмі-ж ужо аднабаковым. У санацыйнай Польшчы дамаганьне беларускага школьніцтва й папулярызаваньне яго сярод беларускіх масаў вялося грамадзкімі дзеячамі й інтэлігенцыяй, якія праз гэта наражаліся на арышты й пабоі паліцыяй або пабоі бандамі, арганізаванымі асаднікаў. Як-жа гэта, што беларускія дзеячы й інтэлігенцыя ў мі паліцыяй із сваіх сышчыкаў і сяньняшняй народнай Польшчы гэтак занядбалі свае абавязкі? Калі там узапраўды існуе гэткая вялікая свабода й дбайлівасьць уладаў да беларускага жыхарства, як гэта прадставіў дакладчык, то беларуская дзейнасьць павінна была-б ісьці на лепшае, а не наадварот!

**П. Н.**

# АДСЬВЯТКАВАЛІ ЗАПУСТЫ Ў НЬЮ ЁРКУ

У нядзелю 4 сакавіка сёлета Парахвіяльная Рада й Сястрыцтва Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага пры Атлянтык авэню 401 у Брукліне зладзілі Запусты. Зыйшліся прыхаджане й госьці, каб супольна за бяседным сталом правесьці гэты дзень — апошнюю нядзелю перад Вялікім Постам.

Напачатку бяседы а. Расьціслаў Войтанка прачытаў малітву й запрапанаваў ушанаваць памяць нядаўна памерлага сьв. пам. інжынера Міколы Гарошкі хвілінай цішыні. Адразу-ж пасьля гэтага прысутныя прапялі „Вечную Памяць".

Стараньнем гаспадыняў была падрыхтаваная адмысловая ежа свае работы: каўбаса, пульхныя аладкі й шмат розных ласункаў. Час ад часу забіраў голас гаспадар бяседы (няважна, якім чынам стаўся ён ім: ці дзеля гэтага ўпаўнаважаны ці дабраахвотна), які выдатна выконваў сваю ролю. Гумар і жарты гаспадара ўспрыймаліся й прысутнымі, у выніку чаго стварылася шчырая й прыемная атмасфэра.

Былі й прамовы. Старшыня Галоўнай Управы БАЗА Антон Шукелайць інфармаваў, як будуць сёлета адзначацца 61-ыя ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі Актам 25 Сакавіка: 22 сакавіка беларуская дэлегацыя, у ейным складзе й а. Расьціслаў Войтанка, які запрошаны прачытаць малітву на адчыненьне сэсіі Кангрэсу, паедзе ў Вашынгтон. Гэтая дэлегацыя мае таксама скласьці візыту некаторым кангрэсмэнам. У дзень 25 сакавіка, у нядзелю — таксама інфармаваў далей старшыня Галоўнай Управы БАЗА, — адбудзецца супольная бяседа-банкет пасьля Божае Службы й малебену ў Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага. Сваё задавальненьне з прычыны зладжаньня сьвяткавальнае акадэміі й банкету ў залі царкоўнага будынку выказаў а. Расьціслаў Войтанка.

Заслугоўвала на асаблівую ўвагу выступленьне д-ра В. Кіпеля. Ён, што жыве далей ад Нью Ёрку й незаўсёды наведвае нашыя імпрэзы, патрапіў больш рэалістычна глянуць на нашае грамадзкае жыцьцё. Пры гэтай нагодзе ён зазначыў, чаму тады, як некаторыя асобы аддаюць ахвярна свой вольны час грамадзкай працы, іншыя навет не знаходзяць часу ці проста лянуюцца падтрымаць свае арганізацыі хоць-бы сваёй прысутнасьцяй на нашых сходах, імпрэзах ці нацыянальных сьвяткаваньнях.

Сказанае д-рам В. Кіпелям прымусіла некаторых прысутных дакладней разгледзіцца па залі й сьцьвердзіць, каго-ж не хапае за нашымі сталамі й колькі нескансумаванай ежы засталося на сталох. І хоць ня можна сказаць, што людзей было мала, але магло быць куды больш дый даход на царкву, якая патрабуе рамонту, быў-бы куды большы.

І хоць бесклапотны настрой пасьля такіх разважаньняў затуманіўся, няўрымсьлівы той майстра цырымоніі, як мог, папраўляў сытуацыю. Экспромтам была зладжаная лятарэя, працягваліся гутаркі, добра смакавала салодкае печыва з кавай.

Усё, што маглі, зрабілі нашыя гаспадыні, каб як найлепш падрыхтаваць гэты супольны банкет. Навет хлеб, ад вякоў шанаваны нашымі продкамі, як нешта сьвятое, закасаўшы рукавы собскаручна замясіў і сьпёк той самы майстра цырымоніі, за што яму й усім гаспадыням належыцца шчырая падзяка.

Разьвіталіся з надзеяй, што пры ладжаньні наступнае падобнае імпрэзы будзе шырэйшае падтрыманьне з боку грамадзтва, а гэта для агульнае карысьці, як і для нашага асабістага задавальненьня.

**Зіна Станкевіч**

# ПАПРАЎКА

У папярэднім нумары „Беларуса" на 6-ай бачыне пад клішай Сп-ва Анны й Нікадэма Жызьнеўскіх ня зь віны Рэдакцыі быў няправільна пададзены подпіс. Правільны подпіс пад клішай павінен быць: **„Анна й Нікадэм Жызьнеўскія перад мікрафонам на сьвяткаваньні 25-годзьдзя іхнага сужэнства".**

# ПАДЗЯКА

Гэтым выказваю маю шчырую падзяку Управе Беларускага Цэнтральнага Камітэту ў Вікторыі за наладжаньне Дня Паэзіі майго мужа Алеся Салаўя (Альфрэда Радзюка-Кадняка) дзеля ўшанаваньня першых угодкаў Ягонае сьмерці, айцу Пратапрасьвітару А. Кулакоўскаму, псаломшчыку М. Борстаку й харыстым за адслужэньне Паніхіды й пасьвячэньне помніка, Камітэту Дня Паэзіі за апрацаваньне й правядзеньне праграмы дня, чытачом, дэкляматарам, сьпявачцы й усім, што ўшанавалі гэтую ўрачыстасьць іхняй прысутнасьцяй і зладжаньнем памінальнага абеду.

**Жонка Нябожчыка**
**Зінаіда й Дзеці**

# ПАМЕРЛІ АЛЕСЬ ЯКІМОВІЧ І ЮРКА ГАЎРУК

Сёлетні год прынёс ужо для беларускай літаратуры дзьве балючыя страты: 15 студзеня раптоўна памёр таленавіты пісьменьнік і адзін з пачынальнікаў беларускай дзіцячай літаратуры Алесь Якімовіч, а месяц пазьней — 18 лютага на 74 годзе жыцьця памёр таксама раптоўна заслужаны паэта, літаратуравед і таленавіты майстра мастацкага перакладу Юрка Гаўрук.

Алесь Якімовіч нарадзіўся 17 студзеня 1904 году ў вёсцы Чурылава Узьдзенскага раёну ў беднай сялянскай сям'і, а літаратурную дзейнасьць пачаў у 1923 годзе. Ягонаму пяру належаць дзясяткі твораў, найбольш значныя зь якіх вершаваная казка „Каваль Вярнідуб", зборнікі апавяданьняў „Залаты зуб", „Помста", „Сябры" ды некаторыя аповесьці, як „Нязвычайны мядзьведзь", „Базылёў курган", „Сьмелыя людзі". Вобраз правадыра беларускага паўстаньня 1863 году Алесь Якімовіч увекавечыў у трылёгіі аповесьцяў „Адкуль ліха на сьвеце", „Канец сэрвітуту" й „Кастусь Каліноўскі", за якія была яму прысуджаная Дзяржаўная прэмія БССР. У літаратурным апрацаваньні Алеся Якімовіча зьявіўся шэраг беларускіх народных казак.

Галоўны рэдактар дзіцячага часапісу „Бярозка" паэта Анатоль Грачанікаў у газэце „Літаратура і Мастацтва" за 19 студзеня сёлета гэткую пакінуў ацэну літаратурнай спадчыны Алеся Якімовіча: „Сумныя весткі прыходзяць нечакана. Маланкава апаліла й гэта: памёр выдатны пісьменьнік, адзін з пачынальнікаў беларускай савецкай літаратуры для дзяцей і юнацтва — Алесь Якімовіч. Вялікая страта напаткала нашу літаратуру...

Сярод пісьменьнікаў яго вылучала нямітусьлівая, далікатная зацікаўленасьць да творчага лёсу кажнага з нас, асабліва пісьменьнікаў малодшага ўзросту. Глыбокае разуменьне гістарычнага поступу нашай краіны, залатога скарбу мастацтва — народнай творчасьці й псыхалёгіі дзіцячай душы, нясумненна, наклалі на Алеся... свой адметны адбітак. Такім ён і застанецца ў памяці чытачоў: мудрым чараўніком, які адкрывае кажнаму з нас таямніцы цудоўнага мастацкага слова".

***

Юрка Гаўрук нарадзіўся 6 травеня 1905 году ў Слуцку ў работніцкай сям'і. Ён скончыў вышэйшы літаратурна-мастацкі інстытут імя Брусава ў Маскве, дзе і пачаў сваю літаратруную дзейнасьць. Вярнуўшыся ў Беларусь, ён быў дацэнтам катэдры беларускай мовы й літаратуры ў Горацкай сельскагаспадарскай акадэміі, потым вёў курс замежнай літаратуры й літаратураў СССР у Магілеўскім пэдагагічным інстытуце. Дзесяць год працаваў памочнікам галоўнага рэжысэра па літаратурнай частцы Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатру імя Янкі Купалы ў Менску.

У 1926 годзе Юрка Гаўрук выдаў першую кніжку — зборнік нарысаў „Вясковыя рыскі". Але найбольш зырка ягоны талент праявіўся ў галіне мастацкага перакладу. Ён аўтар першай у Беларусі кніжкі паэтычных перакладаў „Кветкі з чужых палёў" (1928). На беларускай сцэне ў ягоных перакладах ставіліся п'есы В. Шэксьпіра, Л. Талстога, А. Чэхава, Ж.-Б. Мальера, В. Гюго, Н. Хікмэта, Л. Ляонава. Юрка Гаўрук уважаецца адным із заснавальнікаў беларускай школы мастацкага перакладу.

„Але Юрка Гаўрук быў яшчэ й таленавітым арыгінальным творцам, — цьвердзіць паэта Ніл Гілевіч у сваім нэкралёгу ў газэце „Літаратура і Мастацтва" за 23 лютага сёлета й працягвае: „Калі мы зьбяром да аднаго месца й прапануем чытачом зробленае ім у розных жанрах літаратуры — ня толькі шматлікія пераклады, але й яго вершы й паэмы, апавяданьні й нарысы, артыкулы й рэцэнзіі, мы ўбачым, што яго творчы плён важыць куды больш, чым нам магло дагэтуль здавацца, і што гэта таленавіты, сьціплы й высакародны працаўнік на ніве роднай літаратуры заслугоўвае вялікай пашаны й доўгай памяці, заслугоўвае таго, каб нашчадкі чыталі яго й перачытвалі. У яго літаратурнай спадчыне амаль нічога няма выпадковага, як сапраўдны майстар ён усё рабіў кваліфікавана, трывала й надоўга, бо ўва ўсё ўкладаў ня толькі ўменьне, вопыт, розум, але й душу й сэрца. Творчай працы ён аддаваў сябе шчодра й да астатку, і ў гэтым быў прыкладам для ўсіх, хто яго ведаў, і застанецца прыкладам для тых, што прыйдуць у літаратуру заўтра".

**Ст. Ст.**

**6-ая Штогадовая Мастацкая Выстаўка** ў Беларускім Цэнтры ў Саўт Рывэры (Вайтгэд авэню) была адчыненая ў нядзелю 18 сакавіка а 3-яй гадзіне. Выстаўка будзе адкрытая кажнае нядзелі ад 3-яй гадзіны да 1 красавіка ўлучна.

**„Зважай" — часапіс Беларускіх Вэтэранаў** (№ 4, сьнежань 1978) — зьмяшчае: артыкул пра поступ русыфікацыі на Беларусі; выпіс з кнігі беларускага савецкага пісьменьніка А. Карпюка пра „Чорнага ката"; матар'ялы на тэму ўзбраеньня СССР і ЗША; тэкст і ноты „Партызанскага маршу" („Сьлязамі край увесь сьцякае..."); урывак з трэйцяе кнігі трылёгіі К. Акулы „Гараватка"; рэцэнзія В. Сянькевіча на дзьве кнігі М. А. Ткачова пра замкі Беларусі; матар'ял пра Алімпійскія гульні ў Маскве.

**„Барацьба" — цэнтральны орган Беларускага Вызвольнага Фронту** (№ 85-86, сьнежань 1978) — зьмяшчае: калядныя прывітаньні Д. Касмовіча, кіраўніка БВФ, справаздачу пра ягонае падарожжа ў Амэрыку ды тэкст ягонае прамовы ў часе наведаньня беларускіх цэнтраў у ЗША; інфармацыю пра XI-ю канфэрэнцыю Сусьветнай Антыкамуністычнай Лігі ў Вашынгтоне; інфармацыю пра эўрапейскі кангрэс „Панэўропа Уніён" у Фрайбургу (Зах. Нямеччына); інфармацыю пра зьезд сяброў і прыхільнікаў БВФ і БЦР у Нотынгаме ў Ангельшчыне; хроніку; вершы.

## БЕЛАРУСКАЯ ПРАГРАМА Ў СЯРЭДНЯЙ ШКОЛЕ Ў САЎТ ВІНДСОР

На запросіны кіраўніцтва Сярэдняй Школы ў Саўт Віндсор ля Прынстану 9 лютага сёлета была наладжаная стараньнем Беларускага Мастацкага Таварыства ў Нью Джэрзі й Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі праграма пра Беларусь. Сп-ня Г. Русак зрабіла даклад і паказала дыяпазытывы пра Беларусь і беларускі народ. Былі адлюстраваныя тэмы: край і прырода, старыя замкі й селішчы, новыя гарады, прамысловасьць, заняткі, мастацтва й спорт, а таксама абразы з жыцьця Беларусаў у Нью Джэрзі. Сяброўкі й сябры Арганізацыі Моладзі: Л. Русак, А. Кіпель, Р. Гутырчык, Н. Русак і Ю. Кіпель дэманстравалі беларускае народнае адзеньне з розных частак Беларусі. Сп-ня Н. Згірская паказала, як ткуцца беларускія паясы, а сп-ня Н. Кудасава дэманстравала, як прадзецца кудзеля.

На праграму пра Беларусь прыйшло каля 200 студэнтаў старэйшых клясаў школы й шмат настаўнікаў. Вучні й настаўнікі выявілі моцнае зацікаўленьне праграмай і задавалі шмат пытаньняў на тэму бачанага. Такія праграмы — гэта добры спосаб азнаямленьня маладога амэрыканскага пакаленьня зь беларускай культурй.

**Р. Б.**

# НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД "БЕЛАРУСА"

**За папярэдні пэрыяд (у лютым 1979) паступілі ў касу нашае газэты падпіска й наступныя ахвяры на Выдавецкі Фонд „Беларуса":**

**I. ЗША:**

**Прыслана беспасярэдня ў Рэдакцыю:**

| | |
|---|---|
| 1. П. Драздоўскі | $ 30.00 |
| 2. В. М. і М. | 25.00 |
| 3. Сп-ня М. Дубоўская | 25.00 |
| 4. Кнігарня Віктара Камкіна за абвестку | 20.00 |
| 5. Ул. Лукашэвіч | 20.00 |
| 6. А. Філістовіч | 20.00 |
| 7. Місія БССР у АЗН | 20.00 |
| 8. С. Антонік | 20.00 |
| 9. В. Шчэцька | 15.00 |
| 10. Хв. Шыбут | 15.00 |
| 11. М. Крэта | 10.00 |
| 12. Сп-ня А. Вазноніс | 10.00 |
| 13. Д-р Я. Сажыч за кляпсыдру | 10.00 |
| 14. Л. Акіншэвіч | 10.00 |

**Разам: $ 250.00**

**II. КАНАДА:**

**Прыслана беспасярэдня ў Рэдакцыю:**

| | |
|---|---|
| 1. Сп-ня В. Пашкевіч | $ 20.00 |
| 2. А. Жылік | 20.00 |

**Разам: $ 40.00**

**III. АЎСТРАЛІЯ:**

| | |
|---|---|
| 1. Я. Ролсан за клішы | **$ 23.00** |

**IV. БЭЛЬГІЯ:**

| | |
|---|---|
| 1. Р. Рэнард | **$ 15.00** |

**V. ДАДАТКОВА $ 20.00**

**Усяго разам: $ 348.00**

**Усім тым, што прыслалі грошы, Рэдакцыйная Калегія „Беларуса" выказвае шчырае беларускае дзякуй!**